PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 25 (2249) Год XLIV Беласток 20 чэрвеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Пытанні без адказаў

22 чэрвеня міне чарговая гадавіна агрэсіі гітлераўскай Германіі на Савецкі Саюз. У Беларусі ветэраны ўскладуць кветкі да помнікаў чырвонаармейцам, у тэлебачанні пакажуць дакументальныя і мастацкія фільмы і ўсё адбудзецца так, як бывала гэта раней. Ніякай рэфлексіі над драмай нацыі ў XX стагоддзі пры гэтай нагодзе не будзе. Не стануць на парадку дня пытанні: ці за тры гады вайны мусіла загінуць чацвёртая частка народа, хто вінаваты ў пакутах мільёнаў людзей, дзеля якой ідэі беларусы пацярпелі такія ахвяры. Магчыма варта было б адказаць ці трагедыя другой вайны не пачалася ўжо ў 1918 г., калі не ўдалося стварыць сваю дзяржаўнасць? Народ не ставіў такіх пытанняў і ніхто яму не адказваў. Таму ў 1994 г. беларускі люд выбраў такі напрамак развіцця, якога канчатковая мэта вызначаная кіраўніцтвам мае шмат прыкметаў родам з трыццатых гадоў.

У нас на Беласточчыне таксама шмат пытанняў астаецца без адказаў. У чэрвені і ліпені 1941 г. гітлераўцы расстралялі пару соцень беларусаў. Часта былі гэта людзі далёкія ад палітыкі, часам былі арганізатарамі беларускага культурнага руху на нашай зямлі. Невядома па чым жаданні былі яны забіты немцамі. Мясцовыя былыя даследчыкі ваеннай мінуўшчыны прамоўчвалі расстрэлы беларусаў у першых тыднях акупацыі Беласточчыны. Нявыгадна было гаварыць пра тое, хто служыў тады ў нямецкай паліцыі, хто працаваў у адміністрацыі, хто ствараў спіскі г.зв. прыхільнікаў камунізму. У падручніках пісалася выключна пра змаганне польскага народа з нямецкім акупантам. Дарэчы, нічога ў гэтым плане не змянілася.

Астаюцца яшчэ і пытанні пра сэнс партызанскага руху на акупаванай немцамі тэрыторыі Беларусі. Супраць каго мелі змагацца савецкія ці польскія партызаны? Факты паказваюць, што найменш ад падпольных фарміраванняў пацярпелі немцы, найбольш — мясцовае беларускае насельніцтва. Легенды пра падпольны рух стварылі самі партызаны. Рэчаіснасць, здаецца, была больш складаная чым казкі пра лясных герояў.

Суседнія народы, маючы свае дзяржавы і нацыянальныя эліты, гісторыю выкарыстоўваюць для замацавання пачуцця нацыянальнай годнасці, вучаць маладых ганарыцца сваёй нацыянальнай мінуўшчынай. Чарговым пакаленням беларусаў прапануецца ганарыцца дасягненнямі продкаў у працэсе сацыялістычнага будаўніцтва ці ахвярнасцю ў абароне сталінскай імперыі. У такі спосаб замест грамадзян безупынна выхоўваюцца безыдэйныя адзінкі, гатовыя служыць кожнаму, хто прапануе большы кавалак торта.

Яўген Міранов<br>Яўген МІРАНОВІЧ



*На рыхтаваныя Сяргеем Лукашуком бельскія калектывы заўсёды можна разлічваць. Наймалодшы з іх — „Жураўінка".* Фота Багуслава СКОКА („Кур'ер паранны")

# Бельск гуляў

Бурмістр Бельска-Падляшскага Андрэй Сцепанюк у нядзелю 6 чэрвеня не скрываў задавальнення. Пры добрым надвор'і, з удзелам некалькіх тысяч народу ў горадзе завяршаўся надзвычай багаты ў культурныя падзеі тыдзень. Канцэрты, выстаўкі, гістарычная канферэнцыя, конкурсы танца і спартыўныя спаборніцтвы, гульні для дзяцей і дарослых, мерапрыемствы ў Бельскім доме культуры, гарадской бібліятэцы, Пачатковай школе н-р 3, на стадыёне, у амфітэатры і парку — скаліся на юбілейныя XX Дні Бельска.

— Гэта не толькі дасканалая нагода пагуляць жыхарам Бельска і ваколіцы, але і рэклама нашага горада сярод прыезджых і ў сродках масавай інфармацыі, — сказаў бурмістр. — Дні Бельска штогоду могуць праходзіць дзякуючы заангажаванасці нашых людзей, добразычлівасці спонсараў, але перш-наперш, дзякуючы дырэктару Бельскага дома культуры Сяргею Лукашуку і яго супрацоўнікам. Шчырае ім усім дзякуй.

Першыя Дні Бельска прайшлі больш чым дваццаць гадоў таму, бо ў 1976 годзе. І хоць былі яны значна карацейшыя і скрамнейшыя, ад самага пачатку ідэя была тая ж: даставіць жыхарам горада нагоду добра адпачыць, пагуляць, заэрэзентаваць мясцовы артыстычны рух. Сарганізавалі іх Таварыства сяброў Бельска і Бельскі дом культуры, які да сённяшняга застаецца галоўным арганізатарам мерапрыемства.

— У пачатку дзевяностых гадоў тадышнія гарадскія ўлады скасавалі свята, — расказвае Сяргей Лукашук. — Гаварылі, што трэба зрабіць нейкія дні патрона горада, але пакуль яго знайшлі, у магістраце прайшлі рэзкія змены і Дні Бельска зноў вярнуліся. І то з новым імпэтам. Працягваюцца яны ўвесь тыдзень напрыканцы мая, пачатку чэрвеня і кожны можа знайсці ў іх ходзе такі пункт праграмы, які яго напэўна зацікавіць.

Арганізатары сёлета стараліся задаволіць густы і тых, каго цікавіць дыска-пола, і аматараў фальклору, і блюза, і нават мексіканскай экзотыкі. Хто хацеў, мог пазнаёміцца з навейшай гісторыяй горада, пагледзець экспазіцыю выданняў, якія з'явіліся тут у апошніх гадах і выстаўку прысвечаную Днём Бельска ў мінулых гадах. Або пад неназойлівую музыку з'есці ў цэнтры горада каўбаску з рушту, папіваючы півам.

Адно над пленэрнымі мерапрыемствамі, як дамоклаў меч, час ад часу павісалі чорныя дажджавыя хмары. Першага дня, дык нават разагналі канцэрт на пляцоўцы ў парку. Але пасля буры, усё-ткі мерапрыемства абнавілася і шчаслівa дайшло да апошняга дня. А ў нядзелю 6 чэрвеня ўсё ўжо кацілася згары, прычым наколькі шпарка, настолькі паспяхова. Беластоцкае радыё наладзіла тут сваю летнюю студыю і запрашаючы прысутных да забавы, адразу інфармавала пра яе ўсіх сваіх слухачоў. Штодзёнка „Кур'ер паранны" на вачах публікі выпусціла два нумары спецыяльнай „Фэставай газеты", грошы ад продажу якіх пайшлі на дапамогу хворым дзецям.

Як штогоду, падчас сёлетніх Дзён Бельска заўважальнымі былі беларускія акцэнты. Падчас завяршальнага канцэрта прэзентаваліся артыстычныя вырабы з сена, саломы, дрэва, бярозавых вітак народных творцаў з гміны Орля. З канцэртамі выступалі заўсёды надзейныя бельскія калектывы: дзіцячы „Жураўінка", „Дзявочыя ноткі" з белліцэя і дарослая ды добра вядомая „Маланка" з Бельскага дома культуры. Польку-трасуху завіхаста затанцавалі другакласнікі з „тройкі". З Беластока прыехалі надзвычай папулярныя сярод нашага люду „Прымакі". Адным з гасцей Дзён Бельска быў калектыў „Сваякі" з Мазыра, які паказаўся быў беластоцкай публіцы ўжо ўзімку, на гала-канцэрце фестывалю „Беларуская песня '99".

Пасля такога напружанага тыдня і арганізатары мерапрыемства, і ўлады мелі поўнае права быць задаволенымі. Бо задаволеныя былі жыхары Бельска.

Мікола ВАЎРАНЮК

## Хмары над Чаромхай

Хаця ў чаромхаўскім цэнтры культуры працвітае сапраўдная культурная дзейнасць, над культурнай установай павіслі хмары, з якіх у кожнай хвіліне можна спадзявацца навальніцы. А пройдзе яна па прычыне неразважлівасці Беластоцкага чыгуначнага прадпрыемства нерухомасці, якое незаконна хоча пазбавіць грамадства гміны адзінага дома культуры.

[канфлікт ☞ 3]

## Палескія краявіды

З акон Педагагічнага інстытута відаць непаўторна прыгожы краявід, у цэнтры якога ўецца рака Прыпяць. Астраўкі, паўвостравы, набярэжныя дзюны, шматлікія адгалінаванні і багатая раслінасць ствараюць проста казачны свет. Пасля чарнобыльскай катастрофы Мазырскі раён стаў адным з найбольш забруджаных і таму сёння нават пры вялікіх інвестыцыях у турыстычную базу цяжка было б каго-небудзь прыцягнуць над Прыпяць.

[назіранні ☞ 4]

## Роўныя і больш роўныя

Пабудова помніка ахвярам „Бурага" на бельскім ваенным могільніку замарудзіцца зноў на адзін-два гады. Нядаўна Грамадскі камітэт членаў сем'яў памардаваных атрымаў адмоўнае рашэнне Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі. Камітэт, які не пагаджаецца з міністэрскім рашэннем, падаў скаргу ў Вярхоўны адміністрацыйны суд.

[болей ☞ 4]

## Навучаў нацыянальнаму гонару

Яўген Аніська прыязджаў не толькі на з'езды, але і на канферэнцыі, пленумы. Часта здараліся нязручныя сітуацыі. Аніська хацеў узяць голас, падаваў картачку, а за сталом прэзідыума прыкідваліся быццам і не было яго заяўкі, проста яго не допускалі на трыбуну. Ведалі, што выступіць крытычна. А хто крытыку любіць? Яўген Аніська быў чалавекам адважным, гаварыў праўду проста ў вочы.

[штрых да партрэта ☞ 5]

## Дыхаю двума лёгкімі...

Непадрыхтаваны каталік, сутыкнуўшыся з Царквою, не ўспрыме яе, пакуль не спазнае яе знутры. У варшаўскай царкве на Волі я праз нейкі час заўважыў, што мая рука пайшла хрысціцца па-праваслаўнаму.

[„праваслаўны каталік" ☞ 9]

# Беларусь — беларусы

**Беларускі фільм „Страх" стаў пераможцам Пражскага фестывалю**

## Членам журы стала страшна

Беларускі дакументальны фільм „Страх" быў прызнаны найлепшым на міжнародным фестывалі дакументальных фільмаў „One World", які праходзіў у апошніх днях мая ў Празе. 1 чэрвеня беларускія журналісты атрымалі ўзнагароду.

Аўтары фільма „Страх" — журналіст Леанід Міндлін і аператар Уладзімір Андронаў. Дарэчы, яны былі і сааўтарамі вядомага дакументальнага фільма „Звычайны прэзідэнт", які на фестывалі ў Празе паказваўся ў пазаконкурснай праграме. Поспех фільма „Страх" спецыялісты тлумачаць зусім не нейкім спецыяльным інтарэсам да беларускай тэматыкі і нават не толькі бясспрэчным талентам аўтараў фільма. Справа ў нечым іншым: у цывілізаваных краінах як дзікасць успрымаецца тое, што беларусы лічаць нармальным жыццём. Напрыклад, сярод стваральнікаў фільма „Страх" ёсць ананімныя аўтары — тыя, хто, баючыся праследаванняў, папрасіў не ўказваць свае прозвішчы ў цітрах. І нават гэта — штрых да сітуацыі, якая склалася ў Беларусі з правамі чалавека. Уладзімір Андронаў і Леанід Міндлін лічаць, што іх праца была падобная на працу журналістаў у „гарачых кропках": у аўтараў фільма прабавалі адабраць плёнку або разбіць камеру, у час здымкаў іх не раз затрымлівалі людзі ў форме і ў штацкім, яны хавалі па сябрах і знаёмых знятыя матэрыялы, каб вынік паўтарагадовай работы не знік у адзін дзень. Несумненна, нават гэтыя факты выклікалі ўражанне на ўсіх удзельніках фестывалю.

Фільм „Страх" пачынаецца з кадраў звычайнага жыцця. Здымкі рабіліся ў звычайных мінскіх прадуктовых магазінах, у стаўшых звычайнымі мінулай восенню чэргах за яйкамі. Леанід Міндлін расказвае: „Мяне ў першую чаргу цікавіла псіхалогія людзей, іх рэакцыя на тэлевізійную камеру. Здавалася б, што людзей павінна раздражняць адсутнасць у магазіне прадуктаў. Але хутчэй было падобна на тое, што ім падабаецца стаяць у чэргах. Пенсіянеры прабавалі закрываць камеру, мяркуючы, што такім чынам абараняюць прэзідэнта".

У фільме аб'яднаны некалькі сюжэтаў. Апрача гісторыі з дэфіцытам, у ім расказваецца гісторыя фермера, які некалькі гадоў таму паверыў у тое, што ў Беларусі магчымая прыватная ініцыятыва. Фермер не прадугледзеў аднаго — таго, што апетыты дзяржавы будуць расці няспынна. У выніку свабодны прадпрымальнік апынуўся пад пагрозай збяднення.

Самай уражлівай з'яўляецца трэцяя частка фільма, якая расказвае аб здарэннях 1997 года, калі падчас дэманстрацыі пратэсту супраць аб'яднання з Расіяй 2 красавіка міліцыянеры жорстка збілі ўдзельнікаў акцыі, а таксама журналістаў і праваабаронцаў, якія на дэманстрацыі выконвалі свае прафесійныя абавязкі. Аўтары фільма ўзялі інтэрв'ю ў чалавека, які ў гэты дзень прыцягнуў увагу, — гэта быў японскі студэнт, які прыехаў у Мінск вывучаць беларускую мову. Наўрад ці за час вывучэння мовы ён настолькі пранікнуў беларускай нацыянальнай ідэяй, што рашыў прыняць удзел у дэманстрацыі супраць далучэння да Расіі. Яму проста не пашанцавала — ён не ў час аказаўся ў раёне расійскага пасольства. За гэта ён быў і збіты амапаўцамі...

У фільм увайшлі таксама і вядомыя кадры збівання журналісткі Ірыны Халіп і яе бацькі Уладзіміра Халіпа. Выкарыстаны таксама рэдкія кадры, зробленыя ў адной з турмаў.

Асаблівасць фільма „Страх" заключаецца, напэўна, у яго спакойным тоне. Фільм паказвае, што беларусаў бяскарна можна выстраіць у чэргі за прадуктамі першай патрэбы, давесці да галечы і нават збіць. І ад гэтага становіцца страшна.

Аднак сам Леанід Міндлін лічыць, што героі фільма — „якраз тыя, хто пераадолеў страх, яны пратэстуюць, яны нешта робяць".

Фестываль „One World" у Празе — гэта не дэбют фільма „Страх". Прэм'ера фільма адбылася ў ЗША, у кінацэнтры Нью-Йоркскага універсітэта. Фільм, закончаны даслоўна ў дзень адлёту, у ЗША прайшоў з поспехам. Услед за гэтым прыйшоў поспех на пражскім фестывалі. Стужкай зацікавіліся некаторыя заходнія тэлекампаніі. Невядомае адно — калі гэты фільм пабачаць беларускія гледачы.

**Вольга ТАМАШЭЎСКАЯ**

PS. На пражскім фестывалі праваабаронча кіно было паказаных 45 фільмаў з розных краін свету. Фестываль быў арганізаваны чэшскім фондам „Чалавек у бядзе" (дарэчы, гэты фонд з'яўляецца партнёрам грамадзянскай ініцыятывы Хартыя '97).

*Белорусская деловая газета, № 594, 4.06.1999 г.*

## Незгодным быць забараняецца

Пакуль маскоўскія імперыялісты і іх калабаранты ў Мінску шукаюць, якім чынам аформіць далучэнне Беларусі да Расіі каб гэта выглядала як добраахвотнае аб'яднанне, гродзенскія ўлады для сябе ўжо вырашылі гэтую праблему.

Гродзенская філія Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады планавала правесці 8 чэрвеня пікет з мэтай выказаць пратэст супраць аб'яднання Беларусі з Расіяй. У адпаведнасці з існуючым у Беларусі заканадаўствам у гарвыканкам была пададзена заяўка. Аднак улады забаранілі акцыю. Гарвыканкам прыняў з гэтай нагоды рашэнне № 464, у якім патлумачыў адмову ў дазволе на пікет наступным чынам: „Мероприятие будет способствовать нагнетанию национальной неприязни между белорусским и русским народами. Кроме того объединение двух государств осуществляется на основе прямого волеизъявления белорусского народа в ходе общереспубликанского референдума". Пад дакументам стаяць два прозвішчы: намесніка старшыні выканкама па ідэалагічнай працы Сяргея Анішчыка і выконваючага абавязкі ўпраўляючага справамі выканкама Валерыя Шанцілы. У дадатак спадар Шанціла кіруе юрыдычным аддзелам гарвыканкама і па службовым абавязку павінен ведаць дзе і калі беларускі народ выказваў сваё „прямое волеизъявление".

— Гродзенскія ўлады на працягу апошніх двух гадоў забараняюць амаль усе мерапрыемствы апазіцыі і рашэнне № 464 для нас не было нечаканасцю, — каментуе для „Нівы" адказ выканкама намеснік старшыні гродзенскай Рады Грамады Віктар Сазонаў. — Але тлумачэнне апошняй адмовы можна назваць прынамсі дзіўным. Няўжо ўлады не разумеюць, што да варожасці да рускага народа прывядуць якраз нахабныя дзеянні „інтэгрыстаў". Мэтанакіраванае вынішчэнне ўсяго беларускага ў краіне нічога, акрамя пратэсту нармальных людзей, выклікаць не можа. Не зразумела, пра які рэферэндум гавораць такія адказныя людзі як спадары Анішчык і Шанціла. Да гэтага часу было вядома пра правядзенне ў Беларусі двух рэферэндумаў. Ні на адным з іх пра аб'яднанне дзяржаў пытанне не ставілася. У 1995 годзе гаворка ішла толькі пра эканамічную інтэграцыю. Але правамоцнасць нават гэтага „волеизъявления" даволі спрэчная. Магчыма ў нетрах „вертыкалі" ўжо падрыхтаваны новы рэферэндум і нават падведзены яго вынікі.

Што да планаванай акцыі. У сувязі з тым, што аб'яднанне з Расіяй пакуль адкладзена на невызначаны тэрмін, мы вырашылі ўстрымацца ад несанкцыянаваных уладамі дзеянняў, каб дарма не падстаўляць людзей пад рэпрэсіі. Але гэта не азначае, што ў выпадку аднаўлення пагрозы незалежнасці Радзімы беларусаў спыняць нейкія рашэнні, пад якім нумарам яны б не выходзілі.

**Зміцер КІСЕЛЬ**

## „Нефармалы" вяртаюцца

Удзельнікі маладзёжнага адраджэнскага руху паловы 80-х гадоў у размовах паміж сабою ўжо даўно выказвалі незадавальненне дзеяннямі кіраўніцтва беларускай апазіцыі. Пасля палітычных падзей апошніх часоў яны не вытрывалі. 5 чэрвеня былыя актывісты Канфедэрацыі беларускіх суполак сабраліся з усёй Беларусі на турбазу „Лясное возера" пад Баранавічамі на двухдзённую нараду, каб сумесна абмеркаваць вынікі мінулага дзесяцігоддзя і вырашыць, што рабіць у складаўшыхся абставінах. Ініцыятарамі сустрэчы сталі лідэры моладзі 80-х гадоў: Алесь Бяляцкі, Сяржук Вітушка, Вінцук Вячорка, Віктар Івашкевіч і Алесь Суша.

З пачатку гарбачоўскай адлігі ў розных гарадах Беларусі сталі ўзнікаць патрыятычныя суполкі моладзі. З цягам часу яны аб'ядналіся ў агульны адраджэнскі рух, які стаў падмуркам для стварэння Беларускага народнага фронту, а затым і ўсіх беларускіх дэмакратычных партый. Аднак сябры „Талакі", „Тутэйшых", „Паходні", „Світанку" не звязвалі сваёй будучыні з палітыкай. Зрабіўшы „чарнавую працу", яны прывялі на палітычны Алімп Пазьняка, Шушкевіча, Хадыку, Статкевіча і іншых, а самі адышлі на другасныя ролі ці наогул спынілі палітычную дзейнасць. Як напісаў у прывітальным лісце да ўдзельнікаў сустрэчы ў „Лясным возеры" Сяржук Сокалаў-Воюш, „мы заўсёды мелі ў сэрцы ідэал Беларусі. Здавалася, яшчэ крыху і ён пачне ўвасабляцца. Пагатоў што да справы далучыліся свежыя сілы. Іх было гэтулькі, што мы неяк незаўважна знялі з сябе частку адказнасці за распачатую справу. Мы адышлі ўбок..."

Пасталеўшыя на дзесяць гадоў „нефармалы" вырашылі зноў аб'яднацца і давершыць распачатую калісь справу да канца. Нават калі для гэта будзе неабходна „пацясніць" сённяшнюю апазіцыйную эліту. На сустрэчы гучалі прапановы правядзення своеасаблівай люстрацыі з мэтай не дапусціць да далейшай дыскрэдытацыі дэмакратычнага руху з боку людзей, якія калісьці з імпэтам служылі камуністам, затым Лукашэнку, а пасля перайшлі ў апазіцыю. На думку некаторых удзельнікаў нарады, гэтыя кар'ерысты прынеслі ў дэмакратычны рух свае крывадушыя метады дзеянняў і пры першай нагодзе могуць здрадзіць Беларусі.

**Зміцер КІСЕЛЬ**

## Кніга Сямёна Шарэцкага

У беларускай сталіцы выйшла ў свет кніга старшыні Вярхоўнага Савета XIII склікання Сямёна Шарэцкага „Трагедыя Беларусі або Што такое сапраўдны лукашызм". Паводле меркавання спікера „лукашызм, як называе новае з'яўленне дыктатарскага рэжыму ў Беларусі сам народ, — гэта не проста паводзіны неўраўнаважанага па характары прэзідэнта Беларусі і яго паплечнікаў, а грамадская і палітычная з'ява, якая пачала набываць міжнародную сілу. Лукашызм — гэта новы рэцыдыў дыктатарскага рэжыму ў сучасных еўрапейскіх умовах, гэта сумесь фашызму, сталіншчыны і махровага папулізму. І калі не прыняць тэрміновых мер, то, быццам ракавая пухліна, ён пачне не толькі ўзмацняць сваю ўладу ў Беларусі, але і будзе ўвесь час імкнуцца распаўсюдзіць яе і на іншыя рэгіёны". Ва ўступным слове Сямён Шарэцкі выказвае спадзяванне, што яго кніга „паможа чытачам больш дакладна зразумець, што такое лукашызм".

**БелаПАН**

*Слонімская Газета, № 100, 6-12.05.1999 г.*

## Свабодзе агрэман не пагражае

Нядаўна Мінск наведаў дырэктар „Радыё Свабода/Свабодная Еўропа" Джэф Трымбл. У яго адбылася размова з намеснікам міністра замежных спраў РБ В. Герасімовічам і намеснікам кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта І. Пашкевічам. Дырэктар абмяркоўваў пытанні, звязаныя з магчымасцю адкрыцця і рэгістрацыі ў Мінску рэдакцыі беларускай службы „Радыё Свабода". І. Пашкевіч адзначыў, што ў большасці жыхароў Беларусі „Свабода" асацыюецца са спадчынай халоднай вайны і таму якое-небудзь садзеянне, напрыклад, у арэндзе памяшкання, доступе карэспандэнтаў да афіцыйных асоб ён аказаць не можа. Ён, як кіраўнік інфармацыйна-ідэалагічнай вертыкалі, рэанімаванай у Беларусі з мэтай вядзення контрпрапаганды, не сумеў таксама скрыць трывогі па прычыне рашэння кангрэса ЗША аб павелічэнні фінансавання і адпаведна аб'ёму вяшчання беларускай рэдакцыі „Радыё Свабода".

*Белорусская газета, № 22 ад 7.06.1999 г.*

# Хмары над Чаромхай

**— Гэта разбой ў белы дзень, — хвалюецца сакратар Гміннай управы Валянціна КЕРДАЛЕВІЧ. — Мы не маем магчымасці плаціць у месяц пяці тысяч злотых арэнды па такіх стаўках, якімі самі не карыстаемся!..**

Калі пачала ўводзіцца ў нашай краіне рынычная эканоміка, а ў касе дзяржаўнай чыгункі не хапала грошай, вярхушка пачала ўводзіць ўсялякія рэформы. Раз яны называліся рэструктурызацыяй, іншым разам — мадэрнізацыяй.

Ліквідаваліся „нерэнтабельныя лініі" ды „непатрэбныя" штаты працаўнікоў. Калі ў 1993 годзе Цэнтральная дырэкцыя выкарыстала ўсе магчымасці скарачэння штатаў працаўнікоў у выканаўчых службах, час прыйшоў на сацыяльныя аб'екты: ліквідаваліся сталовыя і дамы культуры. Пад малаток „рэструктурызацыі" трапіў чаромхаўскі духавы аркестр і дом культуры „Калеяж".

Праўда, духавы аркестр надумалася ўтрымаць чыгуначная прафсаюзная арганізацыя, але ад цэнтра культуры ЦДОКП у Варшаве адказалася.

**Няхай надалей клуб служыць грамадству...**

Такое рашэнне ў справе клуба „Калеяж" прынялі начальнікі сацыяльнага і дарожнага аддзяленняў ПКП у Седльцах і войт Чаромхаўскай гміны.

— Будынак клуба будаваўся на культурныя патрэбы чыгуначнага асяроддзя і пры вялікай грамадскай дапамозе ў форме пачынаў, — сказалі сядлецкія начальнікі. — Няхай і надалей служыць насельніцтву гміны.

Для гэтай справы быў спісаны дагавор. На яго аснове чыгуначныя службы ў Седльцах (як уладальнікі) перадавалі ў бясплатную арэнду будынак клуба разам з пляцам, а гміна абавязалася прыняць маёмасць з працаўнікамі пад сваю апеку.

Гміна станоўча трымалася прынцыпаў дагавору, аплачвала ўсе грашовыя выдаткі клуба, дбала як пра сваю маёмасць. І добра ўсім было, бо сапраўды квітнела тут культурная праца.

**„... каб нашчадкам пакінуць мінулае, пісаць пра тое задумана"**

Гэтымі словамі пачынаецца хроніка чаромхаўскага цэнтра культуры.

Ініцыятарам „спісання" дакумента стаў тадышні кіраўнік „Калеяжа" Мікалай Гарадкевіч, грамадскі дзеяч і нястомны прапагандыст культуры, арганізатар духавога аркестра, драматычнага гуртка і хору чыгуначнікаў.

Дзякуючы яго самаахвярнай і амбітнай працы моладзь пазнала смак музыкі. Захапілася песняй і мясцовай культурай, а жыхары пасёлка і навакольных вёсак змаглі паглядзець вядомых майстроў эстрады, пісьменнікаў і паэтаў (айчынных і замежных). Колькі ж пракацілася іх на чаромхаўскай сцэне! „Вясёлы мікробус" — эстрада з Варшавы, „Граніца" — калектыў унутраных войск, цыганскі калектыў „Тэрно"... Тут выступалі Лідзія Корсакуўна, Крыстына Енджаецкая, Казімеж Брусікевіч, Барбара Пронько і Ежы Бяленя (у праграме „Маліноўскі і яго тросскі").

Чаромхаўскі „Калеяж" гасцяваў чэшскага спевака Паўла Лішку і зорку польскага кіно Збышка Цыбульскага...

**Не ўсё добрае паспяхова канчаецца**

— кажуць у народзе. А што гэта праўда, чарамшукі зараз аб тым пераканаліся.

Пасля многіх рэструктурызацый у чыгуначнай адміністрацыі, будынак чаромхаўскага клуба апынуўся ў спісках маёмасці Беластоцкага чыгуначнага прадпрыемства нерухомасці.

Не ведаю адкуль паступіла ў гэту ўстанову заява быццам бы ў чаромхаўскім цэнтры культуры вядзецца гаспадарчая дзейнасць, але факт стаў фактам, што ў сакавіку г.г. начальнік патрабаваў ад гміны дадатковай платы за „беззаконнае" карыстанне будынкам клуба.

У сваім адказе ад 4 сакавіка г.г. Гмінная ўправа паведаміла прадпрыемства нерухомасці ў Беластоку, што ўсё адбываецца згодна пісьмоваму дагавору ад 30 красавіка 1993 года, які гміна заключыла з сацыяльным і дарожным аддзяленнямі ў Седльцах.

Доўга прыйшлося чакаць адказу. Паступіў ён у канцы мая і моцна ўсіх усхваляваў не толькі мясцовы самаўрад, але і грамадства чаромхаўскай гміны. Прадпрыемства нерухомасці рашуча патрабавала ад гміны плаціць месячную арэнду па 5 злотых за квадратны метр будынка, і па 10 грошы за метр пляца.

— Гэта разбой у белы дзень! — гаворыць сакратар Гміннай управы Валянціна Кердалевіч. — Мы не маем магчымасці плаціць за месяц каля пяці тысяч злотых арэнды за клуб з пляцам. Такімі стаўкамі самі не карыстаемся. У нашай гміне грамадзяне плацяць падатак ад нерухомай маёмасці па 4 грошы за квадратны метр, а чыгуначная адміністрацыя ў Беластоку патрабуе ад нас стаўку амаль у тры разы большую.

**Над Чаромхай павіслі хмары**

Хаця ў чаромхаўскім цэнтры культуры працвітае сапраўдная культурная дзейнасць, над культурнай установай павіслі хмары, з якіх у кожнай хвіліне можна спадзявацца навальніцы. А пройдзе яна па прычыне недарэчнасці і неразважлівасці Беластоцкага чыгуначнага прадпрыемства нерухомасці, якое незаконна хоча пазбавіць грамадства гміны адзінага месца культурнага адпачынку, прытым жа ўзведзенага грамадскай працай жыхароў пасёлка. На гэта нельга дазволіць!

**Уладзімір СІДАРУК**

**Гуманітарная акцыя на Беларусь: як ехалі і як вярталіся**

# У дапамогу братам

— Бедны Мінск, бедны... — уздыхае спадарыня Ірэна Трашчотка.

Пра тое, што разлілася Прыпяць, паведаміў нам консул Мікалай Крэчка, сказала яна. Ці мы не маглі б дапамагчы людзям на Беларусі, якія пацярпелі ад паводкі? Ну, і мы, царкоўнае брацтва святога Мікалая, адгукнуліся вельмі хутка.

У суме ў саборы мы назбіралі 150 мяшкоў вопраткі, абутку, пасцельнай бялізны, посуду, фіранак і розных іншых рэчаў.

На Выгодзе пры царкве Усіх Святых спадарыня Галіна Калеснік сабрала 85 мяшкоў.

Калі мы прыехалі ў Рыбалы, дык былі даслоўна шакіраваны: 330 мяшкоў! Уся царква была застаўлена. А якія добрыя рэчы. Кажухі, футры, ходнікі... Бацюшка Рыгор Сасна сказаў у сваім казанні, што мусім дапамагчы братам на Беларусі, пацярпеўшым ад паводкі, і людзі пачалі зносіць.

Едучы ў Мінск па плане, мы заехалі 28-тонная аўтафурай TIR у Гайнаўку. Тут царкоўнае брацтва св.св. Кірылы і Мяфодзія сабрала 247 мяшкоў рэчаў і 867 злотых грашыма на пакупкі. Прадстаўнік Гайнаўскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства Міхал Голуб перадаў нам 1 321 злоты, сабраныя сярод працаўнікоў старастваў Гайнаўцы, у праваслаўных прыходах Яна Хрысціцеля і Дзмітрыя Салунскага, а таксама сярод працаўнікоў Беларускага музея, гарадской управы горада Гайнаўкі і ў Гайнаўскім беларускім ліцэі.

Мы вярнуліся на аўтафуры ў Бельск і там зрабілі пакупкі за атрыманыя грошы. Бралі алей, рыбныя і мясныя кансервы, муку, гарох, чай, маргарын, мятныя цукеркі дзецям. Купляялі таксама сціральны парашок у мяшках па 8 кілаграмаў, бо так выходзіла значна танней, узялі 500 кускоў туалетнага мыла, пасту для мыцця рук.

У Бельску мы таксама заехалі ў Беларускі ліцэй, дзе чакала нас 65 мяшкоў, а адтуль накіраваліся ў Сямятычы, у царкву св.св. Пятра і Паўла, і там таксама ўжо было падрыхтавана 80 мяшкоў.

Яшчэ перад самым нашым ад'ездам, 18 мая а шостай гадзіне раніцы, Канстанцін Марчык з Чорнай-Беластоцкай паехаў у Кляшчэлі і адтуль, з праваслаўнай парафіі, прывёз 200 мяшкоў.

Наш TIR стаяў на базе ў Засцянках, а яго шафёр, з якім я мела ехаць у Мінск, гэта быў беларус, што працуе ў Польшчы, у спадара Андрэя Кажанеўскага, які нам даў без ніякай платы TIR і шафёра.

У Беластоку за грошы, сабраныя брацтвам св. Мікалая (1 400 злотых) і атрыманыя ад Сусветнай рады цэркваў (1 000 зл.), мы закупілі макарону, алей, напіткі, сокі для дзяцей, збожжавую каву.

Вялізную дапамогу аказала нам Галоўнае праўленне Беларускага таварыства, у якім не толькі быў пункт збору дараў, але і закупілі яны 400 фольгавых мяшкоў, з якіх 200 перадалі нам, а рэшту паразвозілі па іншых пунктах у розных мясцовасцях.

Усіх напоўненых мяшкоў было 1 100 штук. Саша (шафёр) усе іх роўненька паскладаў, а на месцах дапамагала грузіць моладзь, ды і святары таксама (у Кляшчэлях — а. Мікалай Келбашэўскі, у Сямятычах — а. Андрэй Якімюк).

А гадзіне 11-ай у Засцянках быў ужо консул Мікалай Крэчка, які суправаджаў нас на граніцу. Наш самаход ніхто не пламбуе, паколькі мы вязем гуманітарную дапамогу. Вялізны TIR, пакрыты брызентам, выглядаў як аграмадная, раздутая бочка. Нават завалена было месца ў кабіне, прызначанае для адпачынку шафёра.

А гадзіне 18-ай мы прыехалі ў Мінск. Пад'ехалі да міліцэйскага паста і адтуль пазванілі ў Дэпартамент гуманітарнай дапамогі. Праз дваццаць мінут прыехаў прадстаўнік Мінскай епархіі з Храма-помніка ў гонар Усіх Святых у памяць нявінна забітых. Пры Храме ёсць цэнтр міласэрнасці.

На працягу двюх гадзін наш TIR быў разгружаны. Парафіяне ўсё зрабілі, якраз было набажэнства. Пазней мелі прыехаць святары з Турава і Пінска і завезці ўсё пацярпеўшым ад паводкі.

Храм гэты — проста цуда. З птушынага лёту ён выглядае, як праваслаўны крыж.

Трэба было хутчэй вяртацца дахаты, вярнуць самаход, ён жа быў дармовы. Гналі мы як мага хутчэй у Гародню, а тым часам прастаялі там на граніцы аж тры дні. Не хапіла нейкіх фармальнасцей.

Хацелася хлеба, як ніколі ў жыцці, але чаю напіліся мы за ўсе часы.

А цяпер во ізноў стаіць 40 мяшкоў. А мо неўзабаве накіруемся ў экуменічную пілігрымку...

**Слухала пра паездку Ада ЧАЧУГА**

# Аднаўляюць павятовыя дарогі

Сёлета ў жніўні і ў верасні Праўленне павятовых дарог у Гайнаўцы будзе рамантаваць павятовыя дарогі, між іншым, з Дубіч-Царкоўных у Тафілаўцы і з Істока ў Карыціска (Дубіцкая гміна) ды вуліцу ў вёсцы Гарадзіска (Нарваўская гміна).

Летам гэтага года будзе пакладзены асфальт, між іншым на 3-кіламетровым адрэзку з Ласінкі ў Трывежу і столькі ж на шляху Нараўка — Семяноўка ды на паўтаракіламетровым адрэзку вуліцы ў вёсцы Палічна, а таксама на вуліцах Застава і Аляксандра Вашкевіча ў Белавежы.

Найбольш грошай спатрэбіцца на рамонт вуліцы Ліповай у Гайнаўцы, якая таксама належыць да павятовых дарог. У ліпені наладзяць яе на 640-метровым адрэзку — ад вуліцы Стэфана Баторыя да скрыжавання з вуліцамі 11 Лістапада і Мілкоўскага. З павятовай касы на яе мадэрнізацыю будзе выдаткавана 395 тысяч злотых.

Апрача гэтых дарог будуць рамантаваць гравейкі з Апакі ў Вульку-Тэрахоўскую ды ў вёсках Сакі і Пятроўшчына. Дарожныя работы плануюць закончыць да 15 ліпеня г.г.

**(гай)**

# Небяспечная ашчаднасць

У Арлянскай гміне дзеля ашчаднасці вады на вясковых пажарных гідрантах устанаўліваюцца блок-замкі. Аднак ніхто не падумаў пакінуць да іх у вёсцы ключы. Па гэтай прычыне можа дайсці да няшчасця.

У нядзелю 30 мая каля 15 гадзіны ў Вульцы-Выганоўскай ад маланкі загарэліся дзве клуні з сельскагаспадарчымі машынамі. Ад пажару пацярпелі гаспадаркі Лявона Старчэўскага і Галіны Васілеўскай. У тушэнні агню прымалі ўдзел чатыры пажарныя каманды — прафесійная з Бельска-Падляшскага і добраахвотнікі з Боцькаў, Рыгораўцаў і Орлі.

— Калі б быў свабодны доступ да гідранта, пажарнікі выратавалі б больш дабра, — кажуць узбударажаныя жыхары Вулькі-Выганоўскай. — Да заблакіраваных гідрантаў нельга было падключыць шлангі. Блакадную ўстаноўку прыйшлося разбіваць камянямі.

А некалькі дзён да пажару вёску візітавалі войт і сакратар гміны з намерам ліквідаваць нелегальную звалку ў кар'еры пры дарозе ў Паўлінава. Калі падпалілі смецце, агонь пайшоў у напрамку будынкаў. Людзі спачатку думалі, што гарыць база ГСу. На шчасце, вяскоўцы хутка прыбеглі на месца і агонь патушылі.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Палескія краявіды

Даследванне гісторыі Беларусі дае тую карысць, што стварае нагоду ўдзельніцтва ва ўсялякіх канферэнцыях арганізаваных навуковымі цэнтрамі гэтае краіны. Праблемай заўсёды з'яўляецца мяжа, а дакладней прыніжаючыя чалавечую годнасць паводзіны польскіх і беларускіх мытных і пагранічных службаў. Выглядае гэта так, быццам бы гэтыя службы па абодвух баках мяжы спаборнічалі ў тым, хто прадэманструе большую здзічэласць, хамства, пагарду да чалавека. Палітычныя адносіны паміж Польшчай і Беларуссю рашуча абмежавалі рух паміж дзвюма дзяржавамі. Цягнік, які адпраўляецца з Чаромхі ў Брэст, а пасля вяртаецца назад, ездзіць амаль пусты. У Чаромсе на нешматлікіх пасажыраў кідаецца хмара мытнікаў. Старэчам і беспрацоўным, якія гандлююць папяросамі і гарэлкай, адбіраюць амаль усё. Шанц захаваць нешта незаконна прывезенае з Беларусі пры так дакладным кантролі блізкі нулю. Страшэнна панура выглядае вобраз мытніка, які свае недамытыя рукі саджае ў жаночыя сумкі і выцягвае надта асабістыя, гігіенічнага характару прадметы. На мяжы польскія службы робяць усё, каб грамадзян свае краіны знеахвоціць да наступнага выезду на ўсход. Саветы таксама не надта хочуць бачыць у сябе гасцей з-за мяжы. Мур на Бугу становіцца штораз больш шчыльным.

Нягледзячы на тое, што дзеецца на мяжы, часам трэба аднак паехаць у Беларусь. Гэтым разам пашанцавала мне пабываць у сталіцы Палесся — Мазыры, дзе прэзідэнт Міжнароднай акадэміі вывучэння нацыянальных меншасцей прафесар Сяргей Яцкевіч разам з мясцовым Педагагічным інстытутам наладзілі канферэнцыю, прысвечаную культурным кантактам беларусаў з суседнімі народамі. Усё было б добра, калі б у праграме не было выступлення нейкага рэктара гэтага інстытута, які на „общепонятном языке" пахваліў палітыку прэзідэнта Лукашэнкі, пазмагаўся з традыцыйнымі ворагамі — нацыяналізмам і шавінізмам. Пра які нацыяналізм яму ішло, дакладна невядома, таму што ў Мазыры гучыць выключна расейская мова, а гук беларускай выклікае шчырае зацікаўленне, быццам бы яна была замежнай. Маючы на ўвазе той факт, што ўдзельнікамі канферэнцыі былі людзі з замежжа, спадар рэктар не забыўся падкрэсліць, што Беларусь — гэта дзяржава, дзе шануюцца законы „и мы ничего не принимаем, что противоречит закону. Мы должны развивать наш белорусский язык, но двигаться по пути консолидации". Гэты ідэалагічны даклад, у стылі эпохі Брэжнева, у вачах большасці слухачоў кампраметаваў не толькі асобу выступаючага, але таксама ўстанову, якую ён узначальвае, і беларускую дзяржаву.

У той жа самай навуковай установе кіраўніком кафедры літаратуры працуе прафесар Уладзімір Кніга. Гэты чалавек не толькі на канферэнцыях гаворыць на беларускай мове, але таксама — што з'яўляецца рэдкасцю — карыстаецца ёю ў сямейных кантактах. Аказваецца, што нават у існуючых умовах, жывучы ў цэнтры Палесся, можна быць чалавекам і верным сынам свае Бацькаўшчыны.

З акон Педагагічнага інстытута відаць непаўторна прыгожы краявід, у цэнтры якога ўецца рака Прыпяць. Астраўкі, паўвостравы, набярэжныя дзюны, шматлікія адгалінаванні і багатая раслінасць ствараюць проста казачны свет. Кожнае іншае грамадства зарабіла б на гэтых дарах натуры вялікія мільёны долараў. Пасля чарнобыльскай катастрофы Мазырскі раён стаў адным з найбольш забруджаных і таму сёння нават пры вялікіх інвестыцыях у турыстычную базу цяжка было б каго-небудзь заахвоціць адпачываць над Прыпяццю.

Падчас пабыўкі на Палессі найбольш інтрыгуе незвычайная ветлівасць мясцовых жыхароў. Яны неяк у гэтай галіне найменш саветызаваныя. Нават у краме, рэстаране ці аўтобусе не відаць такой агрэсіўнасці, якую адчуваецца, напрыклад, у Мінску ці Брэсце. Мая беларуская мова ўспрымалася з нейкім адабрэннем, не выклікала непрыхільных жэстаў, якімі часта рэагуюць на гук беларускага слова ў сталіцы Беларусі. Этажная ў гасцініцы „Прыпяць" сказала нават: „Как чудесно услышеть такой язык; я тоже в молодые годы его изучала и говорила на нём с родителями".

Несумненна падарожнічаць у Беларусь заахвочваюць тамашнія цэны на транспарт і харчаванне. Яны проста сімвалічныя для грамадзян Польшчы. За два злоты можна пераехаць цягнікам на спальным месцы ўсю Беларусь з захаду на ўсход. У Варшаве такую суму трэба выдаць на праезд трамваем. Знеахвочвае да пабыўкі ў гэтай краіне арганізацыя штодзённага жыцця. Усё неяк так прыдумана, каб прынізіць чалавека ці прынамсі ўскладніць яму яго экзістэнцыю. Саветызацыя ў Беларусі пайшла вельмі глыбока ўва ўсіх напрамках грамадскага жыцця. Ніхто пакуль не зрабіў спробы рэфармаваць гэтую антычалавечую па сутнасці сістэму. Напрыклад, у сярэдзіне дня, калі кожны звычайны чалавек шукае месца, дзе мог бы з'есці абед, ва ўсіх рэстаранах вісіць картачка: „Закрыто". Двухгадзінны перапынак на абед маюць у тым часе працаўнікі гастранамічных пунктаў. У цягніку, хаця за акном тэмпература перавышае трыццаць градусаў вышэй нуля, усе вокны закрыты. Пры некаторых відаць толькі надпіс: „Закрыто на зиму". А зіма на чыгунцы, відаць, трывае дванаццаць месяцаў у год. Праваднік вагона інфармуе прытым, што закон не прадбачвае, каб вокны маглі быць адкрытымі.

Беларусь патрабуе рэформаў, беларусы патрабуюць свабоды. На жаль, і аднаго, і другога дарма чакаць у найбліжэйшы час.

**Яўген Міpановіч**

# „Жанчына. Планета. Будучыня".

3 чэрвеня ў Мінску распачаўся Першы Усебеларускі форум пад такім назовам. Арганізатары — Усебеларускі жаночы фонд святой Еўфрасінні Полацкай, Кіеўскае рэгіянальнае аддзяленне



*Валянціна Коўтун — прэзідэнт.*

дабрачынных міжнародных арганізацый ISAR, USIS. Завяршыўся ён у Полацку, 5 чэрвеня, у агульнанародны Дзень святой Еўфрасінні (больш пра мерапрыемства ў наступным нумары).

Фонд святой Еўфрасінні дзейнічае ўжо пяць гадоў. Аб'ядналіся ў ім вядомыя дзеячы культуры, мастацтва, педагогі, навукоўцы, медыкі. Як расказвае Валянціна Коўтун, адна з найбольш актыўных заснавальніц Фонду, вядомая пісьменніца, член Саюзаў пісьменнікаў Беларусі і Украіны, прэзідэнт Фонду, асноўная мэта фонду — садзейнічанне развіццю нацыянальнай культуры, навукі, асветніцтва, абарона правоў жанчыны. Абвясцілі 5 чэрвеня агульнанародным Днём Святой Еўфрасінні Полацкай, Днём духоўнасці, маралі, жанчыны.

— Акцыі, якія праводзяцца пад знакам гэтага дня, скіраваны на аб'яднанне народа, што перасякае нацыянальныя, рэлігійныя, палітычныя і іншыя бар'еры. У гэтым пачынанні нас падтрымалі і Царква, і грамадскія арганізацыі, і шматлікія паломнікі па святых беларускіх мясцінах... Мы таксама ў першы год свайго існавання ўпершыню на Беларусі пачалі і Святаеўфрасіннеўскія чытанні. Прыемна, што гэтую нашу ідэю падхапілі педагогі, якія стварылі Адукацыйны цэнтр імя Еўфрасінні Полацкай, праводзяць аналагічную асветніцкую дзейнасць.

Самых лепшых людзей Беларусі ўзнагароджваецца Медалём святой Еўфрасінні Полацкай. Першымі гэтымі медалямі былі ўзнагароджаны ўладыка Філарэт, пісьменнікі Вольга Іпатава, Уладзімір Арлоў. Праводзіцца конкурс „Жанчына года". Сярод узнагароджаных — пісьменніца Святлана Алексievіч, аўтарка м.інш. „Чарнобыльскай малітвы", прафесар Альжбета Смулкова.

— У сваёй дзейнасці кіруемся думкай аб тым, што ў наш час вельмі важна ўзвышаць жанчыну, а праз яе — увесь народ... Адна з галоўных задач нашага фонду — сабраць найбольш поўную інфармацыю пра жанчын Беларусі, асабліва ў зонах экалагічных бедстваў.

Праграма фонду „Жанчына ў зоне экацыду" распачалася ў 1997 годзе. Першай акцыяй быў саміт, праведзены пры падтрымцы міжнародных дабрачынных арганізацый USIS і SAR. Далучыліся беларускія Міністэрствы аховы здароўя, адукацыі, Інстытут радыяцыйнай бяспекі. Удзельнічалі ў саміце прадстаўнікі Літвы, Украіны, Расіі, Малдовы, ЗША. Саміт падштурхнуў чыноўнікаў да стварэння праекта новага закона аб экалагічнай інфармацыі. Праграма паглыблена, у гэтым годзе створаны цэнтр „Жанчыны ў зоне экацыду", а таксама жаночая экалагічная школа, з якой супрацоўнічаюць эколагі, юрысты, грамадскія дзеячы. Праводзіліся семінары ў Наваполацку, Бабруйску, Шчучыне, Лідзе, Пінску, Слуцку, Маладзечне.

— Наш клопат пра тых, каму цяпер найбольш цяжка як у фізічным, так і ў маральным плане. Гэта вялікая, аб'ёмная праграма завяршаецца форумам „Жанчына. Планета. Будучыня". Галоўная праблема — права жанчыны на высокую якасць жыцця. Але на гэтым наш Святаеўфрасіннеўскі шлях не завяршыцца, бо доўгая дарога чакае наша грамадства да ўсведамлення маральных ісцін, і крочыць нам усім разам, — сказала прэзідэнт Валянціна Коўтун.

У бліжэйшы час плануецца паломніцка-экалагічны шлях, а таксама паломніцтва ў Іерусалім „Шляхам святой Еўфрасінні ў трэцяе тысячагоддзе". Асобы зацікаўленыя супрацоўніцтвам і дапамогай могуць кантактавацца па адрасе: Усебеларускі жаночы фонд св. Еўфрасінні Полацкай, вул. Веры Харужай, 10-2-17, 2209123 Мінск, Рэспубліка Беларусь; тэл./факс: (017) 289-34-58; E-mail: eufrasinya@usa.net. Рахунак: Р/р 3015000000163 ф-л 531 «Беларусбанк» код 287.

**(лук)**

*Фота Міраславы Лукшы*

# Роўныя і больш роўныя

Пабудова помніка ахвярам „Бурага" на бельскім ваенным могільніку замарудзіцца зноў на адзін-два гады.

Нядаўна Грамадскі камітэт членаў сем'яў памардаваных атрымаў адмоўнае рашэнне Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі. 2.06.1999 г. Камітэт, які не пагаджаецца з рашэннем Міністра, падаў скаргу ў Вярхоўны адміністрацыйны суд. Сем'і ахвяр не разумеюць абаснавання міністэрскага рашэння, у якім пішацца, „że formuła projektu pomnika nagrobnego przedłożonego przez Społeczny Komitet... odbiega od warunków, jakim powinien odpowiadać, tj. upamiętnienia tragicznej śmierci furmanów we wsi Puchały Stare spalonej przez oddział PAS-NZW dowodzony przez R. Rajs ps. „Bury"... a także negatywną opinię co do projektu wyrażoną przez ROPWiM" (Раду аховы помнікаў змагання і пакуты). Гэтае абаснаванне сем'і ахвяр называюць маной.

Калі ідзе пра праект помніка, Камітэт адзначае, што адпавядае ён юрыдычным і мерытарычным патрабаванням. Рада аховы помнікаў, згодна з законам, павінна разглядзець праект толькі ў сэнсе гістарычнай праўды і яго мастацкага вобліку. Усе гэтыя прынцыпы праект задавольвае. Сярод іншых закідаў ёсць зблытанне гістарычных фактаў, міністр УСіА, выдаючы адмоўнае рашэнне, зблытаў лік памардаваных вазакоў (падаў 29 а не 30 асоб), ды зблытаў факты, „że wieś Puchały Stare została spalona przez oddział PAS-NZW dowodzony przez „Burego". Папраўдзе Пухалы-Старыя не былі спалены, а толькі Залешаны, Волька-Выганоўская, Зані, Шпакі. Адмоўныя рашэнні ў справе пабудовы помніка — найперш кіраўніка Раённай управы ў Бельску-Падляшскім, пазней беластоцкага ваяводы і ўрэшце міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі — камітэт лічыць палітычным актам, нязгодным з Канстытуцыяй РП, у якой гаворыцца, што ўсе грамадзяне роўныя паводле закона. Усе маюць права на роўнае трактаванне публічнымі ўладамі. Тым часам — аргументуе Камітэт — на гэтым самым ваенным могільніку ў 1992-1994 гадах без ніякага дазволу ўзнік катынскі курган (з 16-метровым крыжам), Польская крыжовая дарога з 18-ці жалезабетонных табліц, прысвечаных героям Польшчы. Ды ніхто ў гэтай справе не пратэстуе і нікога не папракае, што парушаецца закон.

— Відаць, у краіне ёсць дзве катэгорыі грамадзян, — горка канстатуюць сем'і памардаваных. — Ёсць роўныя і больш роўныя.

**Ганна Кандрацюк**

PS. Помнік існуе ў грамадскай свядомасці. На месцы, дзе пахаваны астанкі вазакоў, усыпаны відны курган. Завершаны ён праваслаўным крыжам, на табліцы пералічаны прозвішчы закатаваных вазакоў. Магілу наведваюць безупынна людзі, пра што сведчаць свежыя кветкі.

# Навучаў нацыянальнаму гонару

**Яўген Аніська вельмі розніўся ад нашых дзеячаў БГКТ. У адрозненні ад актывістаў, якія на трыбуне заўсёды хваставіся сваімі дасягненнямі, ён гаварыў пра тое, чаго мы не робім. Казаў, што нашы вёскі занядбаныя, што людзі не ведаюць якая ў іх нацыянальнасць, што пара ўжо перастаць быць „тутэйшымі” і стацца беларусамі, — успамінае беларускі паэт Віктар Швед.**



*Яўген Аніська выступае на VIII З'ездзе БГКТ, 30 мая 1976 г.* Фота з архіва „Нівы”

З Яўгенам Аніськам упершыню сустрэўся ён вясной 1960 года ў Беластоку на III З'ездзе БГКТ. Віктар Швед працаваў тады сакратаром Галоўнага праўлення БГКТ, Яўген Аніська быў старшынёй гуртка БГКТ у Ягуштове.

Папракаў ён Таварыства, што не праводзіць усведамляючай працы. Многія вашы гурткі, казаў, існуюць толькі на паперы. А калі і нешта дзеецца па вёсках, вы ў Беластоку не маеце часу гэтым пацікавіцца. Расказваў пра свае гурткі зацікаўлення. У Ягуштове заснаваў ён шахматны гурток, ансамбль мандаліністаў, арганізаваў спартыўныя заняткі, гурток фотааматараў. Сваім прыкладам паказваў, што беларускую дзейнасць нельга зводзіць адно да танцаў і спеваў.

**Не давалі голасу**

Яўген Аніська прыязджаў не толькі на з'езды, але і на канферэнцыі, пленумы. Часта здараліся няхручныя сітуацыі. Аніська хацеў узяць голас, падаваў у прэзідыум картачку, а за сталом прыкідваліся быццам і не было яго заяўкі, проста яго не дапускалі на трыбуну. Ведалі, што выступіць крытычна. А хто крытыку любіць? Яўген Аніська быў чалавекам адважным, гаварыў праўду проста ў вочы. Многія староніліся ад яго, каб сабе не пашкодзіць, а ён заўсёды засяроджваў увагу на нацыянальных пытаннях. Ніколі не выходзіў з тым, што ён асабіста зрабіў для беларускай справы. Нават у прыватных размовах; я, напрыклад, не ведаў, што ён быў рэдактарам „Золаку”.

**Вы толькі тут гуляеце**

Яўген Аніська прыязджаў у Варшаву да сваёй сяброўкі Анелі Катковіч, якую ведаў з часоў вучобы ў Віленскай беларускай гімназіі. Яна была рэпатрыянткай, актыўна дзейнічала ў варшаўскім аддзеле БГКТ, але ніколі, дарэчы, не гаварыла пра сваю ранейшую дзейнасць. Пазней ад Янкі Жамойціна я даведаўся, што за беларускія справы саветы вывезлі яе ў Сібір. Аніська заўсёды заходзіў у Таварыства. Ён не шкадаваў крытычных заўваг і Варшаве.

— У вас спецыфічнае асяроддзе, студэнцкая моладзь. Ці выхоўваеце яе ў нацыянальным кірунку? Яна ж нашая будучыня, інтэлігенцыя. Трэба, каб ужо тут яны нечым нацыянальным займаліся. А вы, бачу, адно танцавальныя вечарыны ладзіце!

І я ўжо тлумачуся, — прыгадвае Віктар Швед, — што арганізуем сустрэчы з літаратарамі, вучонымі, што маем цікавыя навуковыя даклады.

— Вядома, трэба і патанчыць, — не адставаў Аніська, — але каб абмяжоўваць працу гуртка да танцаў? Замала вы тут іх выхоўваеце, замнога танцуеце!

**Навучаў беларускай мове**

Расказваў, як трапіў у Ягуштова. У беластоцкай куратрыі працаваў беларус Ян Канапелька, які ў 1956-68 гадах быў візітатарам беларускай мовы. Дзякуючы яго стараням Аніську накіравалі ў Ягуштова. Тут навучаў роднай мове. Я нават на запрашэнне Аніські на аўтарскую сустрэчу туды ездзіў. І што мне запамяталася? Мяне ўразіла тое, што Аніська *на бягуча* знаёміўся з маёй паэтычнай творчасцю. Ён прыводзіў многа цытатаў, выказваўся на тэму некаторых вершаў. Найбольш падабаліся яму мае вершы на нацыянальныя тэмы. Сказаў, што любіць паэзію і гэта, зразумела, зрадзіла між намі сімпатыю. Цяжка было Яўгену Аніську ў Ягуштове. Наракаў, што яго не разумеюць.

— Калі сярод настаўнікаў стаўлю нацыянальныя пытанні, — казаў ён, — мяне абзываюць нацыяналістам. Гэтым настаўнікам, вядома, зручней абмінаць гэтыя пытанні і нічога не рабіць. Дайшло да таго, што адабраюць выпадкі, калі бацькі адмаўляюцца пасылаць сваіх дзяцей на ўрокі роднай мовы.

Праўда, не ўсе яго хвалявалі. Добра гаварыў пра сям'ю Манаховічаў, з якімі сябраваў. У Ягуштове, у беларускім асяроддзі адчуваў сябе самотным. Людзі не разумелі як каталік можа змагацца за беларускія справы. Яўген Аніська талкаваў недаверкам, што і Купала быў каталікам, што многа ксяндзоў у касцёлах служыла па-беларуску. Яўген Аніська не ўмеў жыць без Беларусі. Уся яго дзейнасць засяроджвалася на нацыянальных пытаннях.

— Я прыехаў сюды, — гаварыў, — каб працаваць для беларусаў. Каб людзі вучыліся свайго нацыянальнага гонару, каб не лічылі сябе горшым гатункам чалавецтва.

**Ганна Кандрацюк**



*Гурток Беларускага Інстытута гаспадаркі і культуры ў в. Шальціны Браслаўскага павета — 1934 г. Стаяць злева:* ***Яўген Аніська, Эдвард Завыша, Феліцыя Цвячкоўская, Язэп Урбановіч, Станіслаў Цвячкоўскі.*** *Сядзяць злева:* ***Савуць, Леакадзія Цвячкоўская, Леакадзія Германовіч*** *(сястра кс. Язэпа Германовіча),* ***Алена Аніська*** *(сястра Яўгена Аніські),* ***Пятро Цвячкоўскі.*** Фота з архіва Ю. ТУРОНКА

**Віктар Швед**

## *Памяці Яўгена Аніські*

Каб не вывезлі на ўсход
Ты падаўся сам на захад,
Дзе яшчэ і свой народ,
І дзе менш насілля, жахаў.

І прытулак Ты знайшоў
Тут у вёсцы Аўгустова,
Прывіваючы любоў
Да Айчыны, роднай мовы.

Працаваў Ты ў школе тут,
Навучаў штодзённа дзетак
Шанаваць айчынны кут,
Веды здабываць асветай.

Са зняволеным жыццём
Не меў шчасця Ты ў Айчыне.
Таму спіш апошнім сном
Як выгнаннік на чужыне.



*Віктар Швед, а. Яўген Хадакоўскі на адкрыцці выстаўкі „З альбома Аніські” 31 мая 1999 г., Ягуштова.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Асацыяцыя беларусаў Расіі

27 сакавіка 1999 года ў Маскве сабраліся прадстаўнікі беларускіх, выразна беларускамоўных суполак некалькіх гарадоў Расіі Санкт-Пецярбурга, Масквы, Іркуцка, Краснаярска, Цюмені). Нездарма збор супаў з 81-й гадавінай абвяшчэння БНР, бо менавіта яе прынцыпы: беларуская мова, беларуская культура, самастойная Беларусь перш за ўсё леглі ў аснову працы ўстаноўчага з'езда беларусаў Расіі. Арганізавалі з'езд сябры адной са старэйшых у Расіі беларускіх суполак — Таварыства беларускай культуры імя Фр. Скарыны на чале з Генадзем Лехам пры актыўнай падтрымцы Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу. Абедзве суполкі працуюць ужо дзесяць гадоў.

З'езд віталі старшыня Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына” Ганна Сурмач, дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч (Мінск) і Сямён Домаш (Гродна).

На з'ездзе была створана Міжрэгіянальная асацыяцыя беларусаў Расіі. Натуральна гэта аб'яднанне не ўсіх беларусаў Расіі, але ў першую чаргу тых суполак, якія ўжо ўнеслі свой пэўны ўклад у беларускую культуру і навуку і вядомыя за межамі Расіі. На з'ездзе прагучаў заклік: „Хто хоча далучыцца да Асацыяцыі дзеля адраджэння і развіцця беларускай культуры — калі ласка!”

Зацверджаны быў статут Міжрэгіянальнай асацыяцыі і абранае рады. Старшынёй новай арганізацыі стаў Генадзь Лех (Масква), першым намеснікам — Валянцін Грыцкевіч (Санкт-Пецярбург), другім намеснікам — Алег Рудакоў (Іркуцк).

А тыдзень пасля стварэння Міжрэгіянальнай асацыяцыі пры пасольстве Беларусі ў Расіі была арганізавана зборка прадстаўнікоў рускамоўных беларускіх суполак, па большасці створаных у апошнія 1-2 гады, каб стварыць структуру пад назвай Беларуская нацыянальна-культурная аўтаномія ў Расіі.

Гэткім чынам у адказ на стварэнне Міжрэгіянальнай асацыяцыі беларусаў Расіі стварылася і другая арганізацыя, арыентаваная на прынцыпы інтэграцыі Расіі і Беларусі, а па сутнасці інкарпарацыі меншай з гэтых краін большаю. Яна падтрымлівае ініцыятыву імперскіх сіл Расіі і яе прыхільнікаў у Беларусі.

**Валянцін Грыцкевіч**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Васіль ЖУКОВІЧ

### Задумёныя рамонкі

Быў я непрыкметны сведка
ледзьве чутнае гамонкі:
размаўлялі шэптам кветкі,
задумёныя рамонкі.

Красачкі рамонку-тату
гаварылі пасля ночкі:
— так шкада, што не лятаем
мы, як тыя матылёчкі!

— Хто ж прыдумаць мог такое,
быццам не лятаюць кветкі??!
Мы лунаем над зямлёю.
Водар — нашы крылы, дзеткі!

## Пішыце, дзеці, вершы



Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Вольга Апон з Гродна, так як і шмат хто з вас, піша вершы. І падобна, як шмат хто з дзяцей, пражываючых ва ўмовах білінгвізму, піша вершы на дзвюх мовах. Але вучаніца сёмага класа мае ўжо выдадзеную кнігу, пад загалоўкам „Галубка”. Там сапраўды дзіцячыя вершы, хоць ёсць дарослыя пісьменнікі, якія ганарацца, што спецыялізуюцца ў „дзіцячай паэзіі”; здаецца ім, што пішуць для дзяцей або так, быццам ведалі, што хочуць дзеці. Некаторыя з іх, з тых паэтаў, на жаль, настолькі забыліся сябе з таго часу, што плён іхняй пільнай працы — зусім не пра тое, як бачаць свет дзеці...

Пісьменніца Марыя Шаўчонак так заахвочвае чытача: „Калі нават ты не вельмі захапляешся паэзіяй, прачытай гэты зборнічак. Калі ж ты любіш і цікавішся паэтычным словам, а магчыма, і пішаш сам штосьці, то тым больш кніга гэта не застанецца незаўважанай тваім сэрцам, бо яна напісана з дзіцячай непасрэднасцю, шчыра і па-свойму адметна...” А прафесар Сяргей Габрусевіч упэўнены, што Оля Апон „на ўсё жыццё зберажэ ўражанні дзяцінства, бо яны асветлены глыбока паэтычным успрыманнем свету”.

*Зрабіла з паперы галубачку я, —*
*Няхай жа красуню пабачыць зямля:*
*Траўка і кветкі,*
*Маленькія дзеткі,*
*Сонца і лівень,*
*Снежань і жнівень,*
*Вецер і холад,*
*Хлопчык і волат,*
*Коцік на даху...*
*Шчаслівага шляху!*

Вершы Вольгі пра тое, пра што пішаце і вы найчасцей — пра айчыну і яе красу, пра малую айчыну — вёску ці мястэчка, пра звяроў і птушак, прыгажуню-вясну, лета з канікуламі і зімовыя дзіцячыя гульні, Дзеда Мароза... І пра моц кахання; у Олі ёсць паэма-балада, якая канчыцца хэпі-эндам, а ў нашай Анэты Галімскай — вершыкі-карацелькі, напісаныя простымі словамі: ёсць каханне бацькоў, айчыны, я хачу таксама адарыць іх каханнем. Для нашых маладых паэтаў — *дрэвы граюць і ўсміхаецца мак*, ад простых адкрыццяў ідуць да зор і адкрываюць у сабе, у сваёй душы, у сваім мікракосмасе — макракосмас, Бога і вечныя праўды. Ісус сказаў, і то не абы-каму, а сваім вучням, якія адчувалі ўжо сваю духовую моц і ўпэўненасць у праўдзе: „Будзьце як дзеці” — чыстыя, нявінныя, натуральныя, звычайныя. Дзеці раю. І ў сваім уяўленні малыя паэты бачаць той рай — дзе тата і мама, здаровыя і шчаслівыя дзед з бабуляй, бяспечная птушачка, якой не заб’е драпежнік, багатая і спакойная айчына, якой не пагражае вайна... На вокладцы блакітнай кніжачкі Вольгі Апон — дзяўчынка, на руку якой прысела галубка — сімвал таго духоўнага і зямнога міру.

**Міра ЛУКША**

## Фільмы Уолта Дыснея па-беларуску

Увага, шаноўныя! Вашай увазе прапануем новую серыю беларускамоўных фільмаў-казак Уолта Дыснея. Зараз даслалі нам з Мінска выдатную экранізацыю класічнай казкі Шарла Пэро „Прыгажуня ў сонным лесе” („Śpiąca królewna”). Памятаеце гэтую казку, праўда? Маленькую прынцэсу пракляла злая варажбітка. Яна сказала, што калі прыгажуні споўніцца шаснаццаць гадоў, яна ўколецца верацяном і памрэ. Кароль спрабуе ўратаваць дачку, але вельмі ж моцныя чары вядзьмаркі...

Мультфільм працягваецца 75 хвілін. Дзеянню спадарожнічае музыка М. Чайкоўскага. Касету можна купіць у рэдакцыі „Нівы”. Яе кошт 12 злотых (плюс кошт пасылкі). Напэўна патрэбная яна ва ўсіх школах і дамах, дзе прывіваецца любоў да роднай мовы.

Увага, маем невялікую колькасць касет. Будзем інфармаваць пра наступныя фільмы-прапановы.

**ЗОРКА**

## Забытая трагедыя

*(эсэ)*

Беласточчына мае багатую гісторыю. Такія мясцовасці як Бельск, Драгічын былі калісьці важнымі гарадамі. Пра гістарычныя здарэнні, звязаныя з гэтымі і іншымі мясцовасцямі паўстала многа кніжак, публікацый, артыкулаў. Аднак пра многія падзеі не гаворыцца, ніхто пра іх не напісаў, яны часткова забытыя. Адной з іх — бежанства.

Вайна, якая пачалася ў 1914 годзе, доўгі час не датычыла Беласточчыны. Жыхары тутэйшых вёсак, гарадоў жылі сваім жыццём. Яшчэ ў ліпені 1915 года людзі былі спакойныя, не прадчувалі таго, што станецца за нядоўгі час.

9 жніўня немцы занялі Варшаву. З горада ўцякала многа жыхароў. Нямецкія войскі ішлі далей на ўсход. У цэрквах Беласточчыны святары перасцерагалі, што набліжаюцца немцы і што трэба як найхутчэй уцякаць. Людзей, якія не хацелі выязджаць, страшылі расійскія жаўнеры, якія гаварылі пра жорсткія адносіны немцаў да людзей. Запалоханае насельніцтва пачало хутка збірацца ў дарогу. Забіралі з сабой толькі найбольш патрэбныя рэчы. Нярэдка зберажэнні цэлага свайго жыцця закопвалі каля хаты, маючы надзею, што хутка сюды вернуцца. За сабой пакідалі ўсё сваё жыццё, працу, спакой. Перад імі была доўгая дарога ў нязнанае. Прымяняючы тактыку „спаленай зямлі”, расійскія жаўнеры палілі апусцелыя вёскі. Праз некалькі дзён знішчылі ўсё, на што працавала насельніцтва Беласточчыны многімі пакаленнямі.

Бежанцы ехалі цэлымі рухомымі саставамі. Пасля нейкага часу пачало не хапаць ежы. Людзі хварэлі, паяўляліся эпідэміі. Было гэта прычынай многіх сямейных драмаў. Калі ў сям’і ад халеры ці іншай хваробы памёр бацька, трэба было яго пахаваць каля дарогі, без ніякіх хрысціянскіх абрадаў. На магілу стаўлялі крыж збіты з дзвюх дошак, памаліліся і ехалі далей, таму што іншыя вазы не чакалі. Гэтая малітва над магілай была найчасцей першай і апошняй. Яны не ведалі ці вернуцца, а калі так, можа не знойдуць магілы. Такія перажыванні сустрэлі не адну сям’ю. Уцякаючы ад немцаў, бежанцы пакідалі на сваёй дарозе многія магілы.

Калі заехалі на месца, трэба было пачынаць па меры звычайнае жыццё. Найлепш было для людзей, якія трапілі на вёску, таму што большасць з іх гэта сяляне. Маглі яны наняцца на працу ў мясцовых гаспадароў. У гэтым перыядзе ўзнікла многа арганізацый, якія дапамагалі ўцекачам. Найшырэйшую дзейнасць развіваў камітэт дачкі цара — Таццяны. Жыццё пачало ўладкоўвацца. Тутэйшыя жыхары адносіліся да бежанцаў сардэчна. Аднак людзі ўвесць час памяталі пра сваю вёску, хату, якую пакінулі, уцякаючы ад немцаў.

Умовы пагоршыліся пасля рэвалюцыі ў 1917 годзе. Улады перасталі дапамагаць, бежанцы пачалі адчуваць голад. Узнікла пытанне: „Што далей?” Ці астацца тут і цярпець голад, ці вяртацца дахаты, не ведаючы, ці яна яшчэ стаіць. Туга па бацькаўшчыне была настолькі вялікая, што амаль усе рашылі вярнуцца.

І зноў перад сабой мелі яны доўгую дарогу, па сабе пакідалі магілы. Найбольш людзей вярнулася ў 1921 годзе. Тое, што тут убачылі, было страшным. Амаль усе вёскі былі спалены, рэдка дзе хаты асталіся цэлымі. У ацалелых хатах часта жылі чужыя людзі, якія або раней вярнуліся, або не выязджалі. Бежанцы пачыналі ўсё ад пачатку. Будавалі хаты, аборы, гумны. Аднак і на сваёй зямлі цярпелі голад. На палях не было збожжа. Трэба было яго купіць ад багатых гаспадароў, якія не выязджалі. Жыццё павольна ставала нармальным, аднак бежанства асталося ў памяці людзей на многія гады.

Бежанства — важная падзея ў гісторыі гэтых зямель. На жаль, няма ніводнай кніжкі, у якой была б апісана гэтая падзея. Бежанства памятаюць яшчэ найстарэйшыя жыхары вёсак нашага рэгіёна. Успаміны некаторых бежанцаў запісалі ўдзельнікі Сустрэч „Зоркі” і рэйдаў у 1997 і 1998 гадах. Думаю, што мы не павінны пра бежанства забываць і па меры магчымасцей паглыбляць веды пра гэтую важную частку нашай гісторыі, якая для нашых продкаў стала вялікай трагедыяй і найвялікшым жыццёвым выпрабаваннем.

**Міхась СЦЕПАНЮК**

Вучні IV класа ПШ у Кнарыдах. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Францішак КАБРЫНЬЧУК

## Як важыўся камар

Лётаў камар над ракою,
Лёгенькі, быццам пылок.
Бзыкнуў ён з неспакоем:
— Ці я патаўсцеў хоць разок?

Там да вагі нехта збожжа
Прынёс ад гаспадара.
— Гэй, чалавеча, ці можаш
Зважыць і камара?

— Магу, толькі кажучы шчыра,
Мушу зрабіць тут намёк:
Не маем такой малой гіры,
Каб зважыць цябе, камарок.

Гэта ўжо нейкія здзекі,
Падумаў, ляцеўшы ў маршрут.
Ён заглянуў у аптэку:
— Напэўна зважуся тут.

— Зважце мяне, дарагая, —
Просьбу сваю паўтараў.
Пані яму абяцае:
— Зважу я камара.

Важыць і важыць жанчына,
Гіраў шукае малых.
Аднак жа камарык няспынна
Лягчэйшы ад кожнае з іх.

Нарэшце сказала: — Камарык,
Я стаўляю гіры запар,
Няма іх з так ніклым цяжарам.
— Шкада, — зноўку бзыкнуў
камар.

Глядзіць, вось базар адмысловы,
Людзі кароваў вядуць.
Тут кожную важаць карову,
Купляюць і прадаюць.

— Ідзя прыйшла, даю слова,
Свой выяўлю вам сакрэт:
Зважуся з нейкай каровай,
Сяду ў яе на хрыбет.

Вось ён з Красуляй чырвонай,
Які ж аграмадны цяжар!
— Колькі важым?
— Роўна паўтоны!
Зважыўся ўрэшце камар.

Лётаў камар над ракою,
Лёгенькі, быццам пылок.
Бзыкнуў — пытанне такое:
— Якая ж вага, камарок?

Як падзяліць паўтоны
Паміж каровай і мной?
Галоўнае — зважаны сёння!
Навошта крывіць душой?

*Пераклаў з польскай мовы*
*Віктар ШВЕД*

## Цвыркун

*Музыка Генадзя Шэмета*
*Словы Міры Лукшы*

*Жвава, вясёла*
Цвыр-кун-ска-кун, цвыр-цвыр. Тан-цор, пя-вун, цвыр-цвыр.
*Стрымана*
Пад ка-ноп-ляй сеў ды тра-він-ку з'еў, на-піў-ся ра-сы, стра-ся-нуў ву-сы, скры-пач-ку у-зяў, так са-бе зай-граў, вось так:
*(Ref.) Жвава*
цвыр-цвыр, цвыр-кун, зя-лё-ны пя-вун, за-і-граў на скры-пач-цы: дрын-дзі-брын-дзі бум! дрын-дзі-брын-дзі бум!

Цвыркун-скакун, цвыр-цвыр,
Танцор, пявун, цвыр-цвыр.
Пад канопляй сеў ды травінку з'еў,
Напіўся расы, страсянуў вусы,
Скрыпачку узяў, так сабе зайграў,
Вось так:
Цвыркун, цвыркун, зялёны пявун,
Заіграў на скрыпачцы: дрындзі-брындзі-бум!

Дзеткі з беларускага прадшколля ў Беластоку. Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Любчыны прыгоды

*(амаль дзённік)*

**Як татка па-беларуску апранаўся**

Збіраецца татка на суполку, а дачушка прыхварэла: застудзілася трохі — як яе з сабой браць?! Шкадуе татка, але што зробіш — другім разам з ёй пойдзе.

А Любка ляжыць у ложку, і не зразумець: ці то спіць, ці то проста адпачывае. Татка зірк на яе, а яна вочы хуценька заплюшчыць — каб не перашкаджаў ёй ніхто. Дык татка нібыта і рады: не трэба ўгаворваць малую, каб паляжала, бо надвор'е — не для пагулянак: імжака ды вецер моцны з заліва.

Кашулю белую надзеў, гальштук ужо завязвае, ды раптам чуе:

— Татка, а чаму ты па-беларуску апранаешся?

І смешна татку, і сорамна: нічога ад вачэй дзіцячых не схаваеш! Але нібыта не зразумеў нічога, распытвае:

— А як гэта?

— Ну... прыгожа... Касцюм, гальштук... Ты да беларусаў пойдзеш?

— Ага! — кажа татка, тут ужо маніць нельга: лепей праўду сказаць, хоць і баіцца, што яна зараз прасіцца пачне разам з ім пайсці — як яе тады пераконваць, каб дома пабыла?

А яна татку:

— Ты за мяне не бойся — ідзі!

— А хіба ты разам не хочаш?

— Хачу, — ціхутка адказвае дачушка. — Ды, бачыш, хварэю...

*(працяг будзе)*

**Анатоль КІРВЕЛЬ**

## Польска-беларуская крыжаванка № 25

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Bajorko | ▼ | Wąż | ▼ | Szkło / Łyko | ▼ ▶ | ▼ | | | ▼ | Okot | ▼ |
| ▶ | | | | | | | Warkocz / Szkoła | | | Gram | |
| Żuk | ▶ | | | | | | Strefa | ▶ | | | |
| | Rząd | ▶ | | | | | Atom | ▶ | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 21:** Імгла, агляд, правапіс, купалінка, базар, дар. Шапка, груз, лапа, явар, ідал, Пі, ласка, ар.

Узнагароды, **запісныя кніжкі**, выйгралі: **Магда Бэдэнічук** і **Юліта Іванюк** з Бельска-Падляшскага, **Губерт Гайдучэня** з Гарадка, **Станіслаў Раца** з Мокрага, **Віялета Ляшчынская** і **Анэта Хіліманюк** з Нарвы, **Уршуля Алексяюк** з Дубяжына. Віншуем!

# Фатаграфіі з Палесся


Магдалена Якуц і Барбара Васілюк на выстаўцы.

У Музеі ў Бельску-Падляшскім да канца жніўня г.г. можна пабываць на выстаўцы фатаграфій „Палессе 1936-1996". На ёй экспануюцца фатаграфіі польскага этнографа і сацыёлага Юзафа Абрэмбскага, які даследаваў Палессе ў 1934-1937 гадах і здымкі, якія ў 1996 годзе на Палессі зрабілі студэнты Кафедры культуры і этналогіі Варшаўскага універсітэта пад кіраўніцтвам д-р Анны Энгелькінг. Выстаўка паказвалася ўжо ў Варшаве, Беластоку, Брэсце, Кобрыне, Пінску і Мінску.

— Арганізуючы экспазіцыю хацелі мы ўшанаваць славутага Юзафа Абрэмбскага і таму яго здымкі памясцілі ў галоўнай выставачнай зале, а здымкі студэнтаў з-за цеснаты размясцілі ў калідоры бельскай ратушы, — кажа кіраўнік Музея ў Бельску-Падляшскім Аліна Дэмбоўская.

Студэнты, якія рабілі здымкі на Палессі ў 1996 годзе намагаліся пабываць на тых самых месцах, якія даследаваў Юзаф Абрэмбскі. Спачатку наведвальнікі могуць пабачыць партрэты людзей, выгляд дамоў, гаспадарчых будынкаў і вёскі ў цэлым, розныя палявыя працы і заняткі: бортніцтва, ганчарства, ткацтва, жніво, ворыва і іншыя хатнія працы. Многа месца адведзена духоваму жыццю людзей, розным святам і вясковым абрадам, звязаным з вяселлем, хрысцінамі і пахаваннем. Паказаны святы куток у хаце, выгляд могілак і многа здарэнняў са звычайнага вясковага жыцця.

— Студэнты стараліся фатаграфаваць тыя самыя месцы, у якіх быў Юзаф Абрэмбскі, — кажа Аліна Дэмбоўская. У многіх выпадках відаць, што захаваліся падобнае будаўніцтва, некаторыя абрады, заняткі і вопратка.

Найбольш наведвальнікаў прыходзіць на выстаўку, калі ўваход бясплатны. Тады таксама прыходзіць многа вучняў у арганізаваных групах.

— Я вельмі люблю чорна-белыя фатаграфіі, таму і з зацікаўленнем гляджу на штодзённае жыццё і цяжкую працу сялян, паказаныя на фатаграфіях Юзафа Абрэмбскага. Можна даведацца, якое было жыццё даўней і параўнаць з сённяшнім жыццём нашай вёскі, — кажа Магдалена Якуц з бельскага белліцэя, якая з класам прыйшла наведаць выстаўку. — Аб тых даўнейшых занятках чула я ад сваіх бацькоў, але не ўяўляла сабе ўсяго дакладна. Калі цяпер езджу да сваёй бабулі, якая жыве каля Райска, бачу, што вельмі многа памянялася на вёсцы.

— Цікава адлюстраваны абрады і вясковыя заняткі, аб якіх расказвалі нам бабулі, — гаворыць ліцэістка Барбара Васілюк.

— Напэўна трэба звярнуць увагу на сумленнасць, з якой працаваў Юзаф Абрэмбскі. На яго здымках вельмі важныя дэталі, якія ўжо аб многім гавораць. Нашых бяльшчан павінна цікавіць жыццё на Палессі, бо жывыя кантакты былі перад вайною, а і цяпер захаваліся таксама, — звяртае ўвагу кіраўнік Аліна Дэмбоўская. — Апрача арганізацыі выставак ладзім таксама музейныя ўрокі і мастацкія конкурсы, напрыклад, апошнім часам арганізавалі конкурс „Царква ў маім горадзе і асяроддзі". Самай вялікай папулярнасцю карысталася ў нас выстаўка ікон, але арганізацыя яе вельмі складаная і не ведаем, калі другі раз зможам паказаць іконы. Што тычыцца выставак, звязаных з нашай тэрыторыяй, то хочам паказаць у наступным годзе выстаўку археалагічных экспанатаў з Боцькаў.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Фэсты ў Нурцы і Сямятычах

6 чэрвеня г.г. адбыліся чарговыя народныя беларускія фэсты, арганізаваныя Галоўным праўленнем БГКТ супольна з мясцовымі ўладамі ў Сямятыцкім павеце. У Нурцы-Станцы фэст распачаўся ў 13 гадзін, а ў Сямятычах а 17 гадзіне. Мерапрыемства ўдастоілі: Генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка і яго намеснік Павел Латушка, дэпутаты Сейма Польшчы Сяргей Плева і Ян Сычэўскі — старшыня ГП БГКТ. Канцэрты вяла, як заўсёды, Валянціна Ласкевіч — сакратар ГП БГКТ. Выступілі „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага, „The Best" з Сямятыч, а з Беластока — „Каласкі" з Алай Дубец, „Ас" і „Прымакі". Мастацкі ўзровень усіх выканаўцаў песень быў даволі высокі, а ўсе нумары праграмы ўзнагароджваліся моцнымі воплескамі публікі.

У абодвух мясцовасцях прагучэлі сардэчныя словы ў адрас самадзейных калектываў і арганізатараў фэстаў. Адчувалася вялікае зацікаўленне людзей беларускім словам, беларускай песняй і прыхільнасць мясцовых улад, якія заявілі, што беларускія народныя фэсты ўвайлі яны ў графік пастаянных гадавых мерапрыемстваў.

У Нурцы-Станцы на фэст прыйшлі прадстаўнікі гмінных улад на чале са старшынёй рады Міраславам Вярховым і войтам Раісай Пахвіцэвіч. Ад іх імя ўсе арганізацыйныя справы дасканала вяла кіраўнік ГОКу Яўгенія Раманюк.

А ў Сямятычах гарадскія ўлады прадстаўляў намеснік бурмістра Веслаў Млынарскі, а павятовыя ўлады — Анна Бэрэза і Сяргей Шчыгал, якія зрабілі вялікую неспадзеўку, паколькі ўсім выступаючым калектывам уручылі „Граматы" наступнага зместу: „Gorące słowa uznania i wyrazy podziękowania za krzewienie Białoruskiej Kultury Ludowej na Podlasiu. Składam serdeczne gratulacje za wspaniałe występy w Siemiatyczach i Nurcu Stacji podczas Białoruskiego Festynu Ludowego. Życzę sukcesów w dalszej działalności oraz owocnych występów na scenach Polski, Europy i świata. Z wyrazami uznania mgr Zenon Sielewanowski — Starosta w Siematyczach". Стараста павета не мог быць на фэсце, бо прабываў у Любліне. Прадстаўнікі старасты ўручылі таксама Галоўнаму праўленню БГКТ „Пухар перамогі" з надпісам: „Za krzewienie Kultury Białoruskiej na Podlasiu".

На заканчэнне трэба сказаць, што згаданыя фэсты — яшчэ два чарговыя вялікай культурнай значнасці мерапрыемствы, якія ўмацоўваюць беларускую культуру на Беласточчыне.

**Міхась Хмялеўскі**

# Царкоўная кніга на міжнароднай ярмарцы


Стэнд з праваслаўнай тэалагічнай літаратурай на Міжнародным кніжным кірмашы ў варшаўскім Палацы культуры і навукі.

У днях 13-17 мая адбыўся ў Варшаве 44-ы Міжнародны кніжны кірмаш. Упершыню, дзякуючы захадам дырэктара Цэнтра друку і кніжкі славянскіх народаў у Варшаве Яна Заброцкага, былі там прапанаваны праваслаўныя выданні фірмы ORTHDRUK з Беластока; дарэчы, была гэта адзіная выдавецкая ўстанова з нашага горада.

У будучым годзе Ян Заброцкі збіраецца паказаць на варшаўскім кніжным кірмашы выданні нацыянальных меншасцей.

— Бо пра гэтыя выданні, — кажа ён, — ведаем мы толькі між сабою. А варта іх паказаць і вонкі.

**(ав)**
*Фота Яўгена Высоцкага*

# Дзіцячы фэст

З нагоды Міжнароднага дня дзіцяці ў суботу, 5 чэрвеня 1999 года, чаромхаўскі ГОК арганізаваў „Дзіцячы фэст" з удзелам гасцей з беластоцкай „Шазды", якіх запрасіла дырэктар мясцовага цэнтра культуры Тамара Кердалевіч.

На фэсце дзеці гулялі „з хустай", укладалі „сцежкі з кветак", малявалі фарбамі „краіны свету", твары і ўкладалі „фрызуры". Можна было таксама паспрабаваць сваіх акрабатычных умеласцей у „цырку" ці выступіць з мікрафонам перад публікай, дэкламуючы верш ці спяваючы нейкую песню, і атрымаць сувенір.

Трэба адзначыць, што кандыдатамі на майстроў эстрады пераважна былі дзяўчынкі, што красамоўна відаць на здымку. На сцэну выйшлі толькі два хлопцы.

Для кожнай гульні было адведзена сваё месца. Найбольш малечаў згуртавалася пры куточку маляванне твару і ўкладання прычоскі.

Былі ларкі з пражанай кукурузай, цукровай ватай і цацкамі.

Пасля гульняў адбылася дыскатэка. Паводле Тамары Кердалевіч, у гэтым годзе не было традыцыйных канцэртаў мастацкіх калектываў, каб даць магчымасць дзецюкам выгуляцца да волі. Пэўна гэты фэст надоўга застанецца ў іхняй памяці.

**Уладзімір Сідарук**
*Фота Тамары Кердалевіч*



# Беларускія прызёры



У XVIII Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы прымаў удзел 31 хор з многіх краін свету, у тым ліку чатыры калектывы з Беларусі. Прыемна адзначыць, што тры калектывы з Рэспублікі Беларусь апынуліся ў ліку прызёраў. У катэгорыі свецкіх прафесійных хораў вылучэнне атрымаў Дзяржаўны акадэмічны хор імя Генадзя Цітовіча. Першую ўзнагароду ў групе свецкіх аматарскіх калектываў атрымаў дзявочы хор „Радуга" з Баранавіч. У катэгорыі іншых прыхадскіх хораў першую ўзнагароду заваяваў хор прыхода Іконы Божай Маці „Усіх тужлівых Радасць" у гонар ахвяр Чарнобыля з Мінска.

На здымку: Хор „Радуга" з Баранавіч. **(вл)**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

# Крыначка '99

**Царкоўныя святкаванні**

Галоўныя святкаванні ў гайнаўскім саборы адбываюцца ў першы дзень Святой Тройцы (у гэтым годзе — 1 чэрвеня). На другі і трэці дзень гайнавяне наведваюць Крыначку — святое месца, распалажанае на лясной паляне ў Белавежскай пушчы, у кіламетрах пяці ад горада. Царква і цудадзейная крыніца вядомы па ўсёй Беласточчыне, адкуль прыязджаюць праваслаўныя вернікі, каб памаліцца, напіцца аздараўляльнай вады і абмыць хворыя месцы. Сёлета гайнаўскі сабор і Крыначку наведаў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Сава, які ўзначальваў галоўныя багаслужбы. Крыначку наведалі таксама паломнікі з Беластока, Бельска-Падляшскага і многіх іншых мястэчак і вёсак.

**Беларускі фэст**

Пасля абеду, на трэці дзень Святой Тройцы Гайнаўскі аддзел БГКТ арганізаваў у жыллёвым квартале „Мазуры" ў Гайнаўцы беларускі фэст „Крыначка '99". На вольным паветры каля блокаў выступілі тры гурты з Гайнаўскага белліцэя: вакальна-інструментальны „Знічка" і іх салістка Іаанна Масайла, рок-гурты — „Гоман" і „Алесюкі" ды калектыў „Прымакі" з Гарадка.

Старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Міхал Голуб, які адкрываў мерапрыемства, паінфармаваў, што гайнаўскія спонсары — Гандлёва-прадукцыйны кааператыў працы і Жыллёвы кааператыў — абяцалі ўспамагаць фінансава беларускі фэст і ў будучыні. БГКТ сустрэчы з беларускай песняй у час святкаванняў у Крыначцы будзе ладзіць пастаянна.

— Першы беларускі фэст у жыллёвым квартале „Мазуры" наладзілі мы год таму і калі пабачылі, што сустрэўся ён з вялікім зацікаўленнем, вырашылі арганізаваць і ў гэтым годзе, — кажа Міхал Голуб. — Цешыць нас, што падабаецца нашым людзям лёгкая музыка калектыву „Прымакі" і выступленні гуртоў з белліцэя, якія паказваюць высокі музычны ўзровень.

У час фэсту сабралася многа людзей, але найбольш актыўнымі былі дзеці, якія гулялі ў час выступленняў калектываў. Можна было атрымаць „Інфармацыйны бюлетэнь" гайнаўскіх радных БНВК і купіць ласункі ў магазіне побач сцэны.

**Аляксей Мароз**

<u>Нельга адварочвацца ад Усходу, бо мы будзем адварочвацца самі ад сябе...</u>

# Дыхаю двума лёгкімі...

**З „ПРАВАСЛАЎНЫМ КАТОЛІКАМ" МАРКАМ ГУРСКІМ ГУТАРЫЦЬ АДА ЧАЧУГА.**

**Марка Гурскага, маладога самаўрадавага дзеяча з падваршаўскага Рашына, адказнага за культуру ў тамашняй гмінай управе і старшыню сінадальнага гуртка пры парафіі святога Шчэпана ў Рашыне, сустрэла я ў беластоцкай друкарні „Ортдрук", куды ён, католік, прыехаў, каб выбраць сабе цікавячыя яго кніжкі пра праваслаўе. Янка Забродкі, які кіруе ў Варшаве Цэнтрам друку і кніжкі славянскіх народаў, так і назваў яго: „праваслаўны католік". Марк Гурскі супрацоўнічае з мясцовым рашынскім часопісам, падрыхтоўвае манаграфію гміны Рашын, выдавецтва „Więź" выдала яго кніжку „Dzieci Soboru zadają pytania".**

***— Я чула, што на міжнародным кніжным кірмашы, які адбыўся ў маі ў Варшаве, не было наведвальніка, які б настолькі быў зацікаўлены праваслаўнымі выданнямі, як Вы...***

— Гэта праўда, што мяне гэтыя кніжкі захапляюць. Нават удалося мне намовіць майго малодшага брата, каб купіў (за 200 злотых!) „Ікону". Цудоўнае выданне!

***— Прабачце, вы ж католік, праўда? А чаму Вы так цікавіцеся праваслаўем?***

— Таму, што я паляк!

***— Як Вы сутыкнуліся з праваслаўем?***

— 16 гадоў таму я быў запрошаны ў Кодань, у каталіцкі манастыр. Там я сутыкнуўся з Усходам. Польскую вёску я ведаў раней. А тут на могілках: палова праваслаўных крыжоў, палова — каталіцкіх.

Пасля Коданя я быў з братам і знаёмай французжанкай Клер на Грабарцы. Мушу прызнацца, што брату там не спадабаўся, як ён гэта назваў, „балаган". Адны — на набажэнстве, другія гавораць, сустракаюцца знаёмыя, нешта ядуць, іншыя нешта купляюць у ларках.

А неўзабаве брат паехаў у Парыж і там яго гаспадар (бацька тае Клер), які гасціў яго, спытаў: „У Польшчы пішуць кірыліцай, так?" Як ён абразіўся!

Калі мой брат быў у Англіі, ізноў адзін англічанін сказаў яму: „Вы ўсе такія самыя. Кожны фізічны працаўнік, калі б ён быў, напрыклад, немцам, англічанінам ці французам, прысеў бы ў часе перапынку ў працы на нейкай лавачцы ці змайстраваў бы нешта накшталт яе, падлажыў бы штосьці і тады толькі сеў бы. А вы ўсе — палякі, рускія, беларусы — любіце прысесці адпалькава: „на куцкі", — і гаспадар паказаў, як яны гэта робяць.

***— Сапраўды, многія з нас не заўважаюць гэтай блізкасці. Калі знакаміты амерыканскі акцёр Роберт дэ Ніра прыехаў пару гадоў таму назад у Варшаву, нехта з журналістаў задаў яму пытанне: „Ці спадабалася вам Варшава, вы ж тут першы раз!". „Але, — адказаў Роберт дэ Ніра, — нядаўна я быў у Маскве, а гэта ж амаль тое самае!" Ізноў Ваш брат мог бы абразіцца...***

— Ён таксама многае зразумеў. Нават пачаў пісаць іконы. Цяпер у Еўропе чалавек сябе бачыць у малой айчыне. Адчыніліся граніцы і мы больш спатыкаемся з суседзямі-славянамі. **Нельга адварочвацца ад Усходу, бо мы будзем адварочвацца самі ад сябе.**

***— Чаму Вы лічыце сябе часцінкай Усходу?***

— Бо і польскі каталіцызм у параўнанні з нямецкім, напрыклад, больш „праваслаўны": менш рацыянальны, больш эмацыянальны. Калі я еду ў нашы горы, дык тамашнія людзі мне напамінаюць праваслаўных. Так яны моляцца, падобная літургія. Людзі не пасіўныя, а актыўна ўдзельнічаюць у набажэнстве. Спяваюць на галасы. Адным словам, бяруць удзел ва ўсім, што дзеецца ў касцёле.

Праваслаўе і каталіцызм гэта гістарычныя веравызнанні. Традыцыйныя. Пратэстанты выступілі супроць традыцыі.

***— Царква асаджана ў традыцыі яшчэ мацней...***

— Непадрыхтаваны католік, сутыкнуўшыся з Царквою, не ўспрыме яе, пакуль не спазнае яе знутры. У варшаўскай царкве на Волі я праз нейкі час заўважыў, што мая рука пайшла хрысціцца па-праваслаўнаму.

***— Значыць, Ваша душа як бы раздвоена: адна палавіна яе прыхіляецца да праваслаўя, хаця бацькі Вашы — католікі...***

— Гэта прыйшло не адразу. Я пераконваўся паступова, што фасцынуючыся праваслаўем, я не перастаю быць католікам. **Цяпер дыхаю двума лёгкімі.**

***— Ці часта Вы бываеце ў Беластоку?***

— Я тут усяго другі раз. Але прынамсі раз у тыдзень бываю ў Варшаве ў Янкі Забродкага. У яго Цэнтры кожны гаворыць па-свойму.

***— Як успрымаюць Вашы фасцынацыі жыхары Рашына?***

— Я іх „заразіў" іконай. Яна стала для іх не чымсьці снабістычным, а духоўнай з'явай, паглыбляючай веру. Часам вернікі, хочучы зрабіць падарунак свайму ксяндзу, купляюць яму ікону.

***— Дзякую за размову. Прыемна было гутарыць з Вамі.***

**Гутарыла Ада Чачуга**

# Рэлігійнасць толькі адраджаецца

— У нас рэлігійнасць толькі адраджаецца, — кажа айцец Міхаіл Велісейчык, які разам з хорам з Ражанкі, што на Гродзеншчыне, прыехаў на Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўку. — Многія жывуць успамінамі аб мінулым, аб будучыні з Богам не хочуць і думаць.

У Шчучынскай акрузе закрытых было дзесяць цэркваў, з ліку якіх дзве былі разабраны і выкарыстаны ў якасці апалу. Зараз багаслужбы адбываюцца ў трынаццаці цэрквах, з ліку якіх восем новаадчыненых. У мясцовасці Ражанка свайго прыхода і царквы ніколі не было.

— У шасцідзесятыя гады закрывалі ў нас цэрквы, тады таксама ліквідавалі хутары, высяляючы з іх людзей. Многія перабіраліся ў больш населеныя пункты, якім стала і Ражанка, — успамінае айцец Міхал.

У Ражанцы зараз каля трох тысяч жыхароў, у тым ліку паўтары тысячы праваслаўных. У 1995 годзе стварылася там праваслаўная абшчына, якая вырашыла пабудаваць сваю царкву. Атрымалі цагляны дававенны будынак і прыстасоўваюць яго да патрэб царквы. Хаця ідуць рамонтныя працы, адбылося ўжо некалькі багаслужэнняў і дзейнічае свой хор, які і прыехаў на Фестываль.

**Найчасцей спяваюць старэйшыя**

— Калі жылі мы ў вясковых прыходах, прыходзілася рэгентаваць аднымі бабкамі-пенсіянеркамі. У дзевяностыя гады пачалі адкрываць цэрквы і ў іх пачалі хадзіць у першую чаргу тыя, якія прыходзілі яшчэ перад закрыццём. Маладыя найчасцей ужо павыязджалі, — кажа матушка Валянціна Велісейчык.

— Даўней баяліся хадзіць у царкву. Калі даведаліся свецкія ўлады, часта і з працы ўвальнялі за гэта, — успамінае айцец Міхаіл. — У дзевяностыя гады справа веравызнання стала свабоднай, вернікаў пабольшала, але незашмат. Многія старэйшыя жывуць толькі ўспамінамі. З моладдзю крыху прасцей, бо адчыніліся нядзельныя школы і на ўсё новае яны больш адкрытыя, але на вёсках маладых ужо мала.

**Беларуская мова ў царкве**

— У час большых святаў, калі больш народу, я казанні па-беларуску гавару, прашэнні чытаю і па дазволу архіепіскапа некаторыя фрагменты да еўхарыстычнага канона ў літургіі служу па-беларуску. Карыстаюся сучасным перакладам айца Сяргея Гардуна, бо мова ў замежных перакладах устарэлая і не вельмі зразумелая, — расказвае айцец Міхаіл Велісейчык. — Тое, ці ў царкве гучыць беларуская мова залежыць ад таго, які святар служыць. Старэйшыя беларускай мовы не вывучалі, маладыя вывучаюць, многія размаўляюць з вернікамі па-беларуску. Я, асабіста, беларускай мовай карыстаўся яшчэ на свецкай працы, калі быў настаўнікам матэматыкі, а пасля ў інстытуце.

Хор з Ражанкі выступаў на XVIII Міжнародным фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

— У пачатку Вялікага посту па дазволу царкоўных улад прыехалі праслухоўваць нашы хоры айцец Міхаіл Негярэвіч і дырэктар Мікола Бушко і тады выбралі нас на Фестываль, — кажа матушка. — Не маглі мы заспяваць так, як хацелі, бо па пашпартных прычынах не прапусцілі праз мяжу сем асоб, а ў гэтым ліку і рэгента Святлану Голышаву. Аднак мы вельмі задаволены, што з нашай мясцовасці маглі трапіць на такі вялікі фестываль. **(ам-з)**

# Вызвалялі нас

**Расказ Валянціны САЕВІЧ са Старога Ляўкова, народжанай у 1928 г.**

***(заканчэнне; пачатак у 23 нумары)***

**У саветаў**

Уначы я прачынаюся: цішыня! Выглядаю праз акенца — рускі салдат са шпулькай на плячах правады павалок. Але вылазіць баімося: хто яго ведае?! Пачакалі яшчэ, заснулі, а мне сніцца: прынёс нехта мне дзве сукенкі — такія чырвоныя! Буджу я сваю сяброўку і гавару: ужо рускія будуць, бо атрымалі мы такія сукенкі чырвоныя. А як жа! Зараз чуем: на панадворку ругатня-ругатня! І поўна салдат. Трэба нам сходзіць уніз — не будзем жа ў сене вечна сядзець, а то прыйдуць рускія і адразу паб'юць. Сходзім мы, а ўжо нас чакаюць з аўтаматамі *начаку*.

— Здраствуйте, — кажам мы, — спасибо, что нас освободили.

А там жа ж усялякія салдаты былі: і добрыя, і кепскія, але больш дрэнных чым добрых. Падышоў да нас адзін касавокі і ўжо гатовіцца гвалтаваць нас. А лейтэнант кажа:

— Не смей!

Я думала, што яны пастраляюцца між сабою. Лейтэнант не дапускае, а той на яго:

— Я тебя застрелю, а что ты мне за начальник!?

Яны сталі з сабою цапы вязаць, аж урэшце лейтэнант назначыў канваіра і загадаў адвесці нас у зборны пункт. Там было ўжо тры тысячы вызваленых. Удзень было спакойна, а прыйдзе вечар і ўжо вычытваюць: такая то і такая — выхадзі!

— Да, — гаварылі, — они уж не вернутся.

Там былі пару дзён і паставілі нас у радкі і сталі пісаць хто кім: палякі да палякаў, рускія да рускіх. І невядома куды пісацца, бо ж бачылі, як з палякамі абыходзіліся, яшчэ дзе завядуць і расстраляюць... Запісалася я беларускай; а як беларусы — то да работы! Загналі мяне бялізну мыць вайсковым і раненым; кроў, вошы, усё ў той бялізне. Трэба было сто пяцьдзесят пар — кашуляў і кальсонаў — за суткі памыць. А брудныя яны! То парашок сыпалі... А той парашок то не такі, як сёння — параз'ядаў рукі да костачак, кроў цурком ідзе; праз ноч крыху зацягне, а на другі дзень зноў струіцца. А адзавацца — то адразу:

— Ты немецкая блядь, немцу работала, работай и нам!

І так было...

Адпусцілі нас каля Влядавы. Праз Брэст падалася я ў Гродна, а адтуль у Ваўкавыск, Свіслач і... дадому. Але ж у Цісоўцы граніца. А я пра гэта яшчэ нічога не ведала, бо ніколі тут граніцы не было. Сабраліся там некалькі жанчын з Гайнаўкі, Дубін, і прасілі, каб нас прапусцілі; нам жа дадому — рукою падаць. Але і слухаць пра гэта не хацелі: *нельзя*! Вярнуліся мы ў Ваўкавыск. А там нейкі лучан гаворыць мне, што мой бацька выехаў у Расію, праз Бераставіцу. То я туды. Высядаю і прашу пагранічнікаў спіскі рэпатрыянтаў. Далі мне і шукай. Я іх усе пераглянула, але — няма яго! Абышла я адну і другую Бараставіцы і таксама не знайшла. Але спаткала чалавека з Каласоў, які сказаў мне, што ў яго суседкі жыве дзяўчына з Лукі і з ёю каб старацца выехаць. То я паехала; сама бульбу капалі, і я памагала, яшчэ і на заробкі хадзілі. Ну, але ж цягне дахаты... Пайшла я ў Гродна, 84 кіламетры пяшком. Мела толькі адны туфлі, якіх мне шкада было абуваць, каб не парваліся, то ішла басанож; а ўжо добрыя прымаразкі былі. Прыйшла на другі дзень пад вечар. Пайшла проста на міліцыю і так там расказваю, пытаю каб дзе пераначаваць, бо ж і тады людзей забівалі. Завёў мяне міліцыянер у адну хату, пераначавала і на другі дзень пайшла па ўстановах. Зайшла ў НКУС — гэта ж самая галоўная савецкая ўлада — і расказваю нейкаму падпалкоўніку сваю справу. А ён мне адказвае:

— Я ничего помочь не могу, ничего не знаю.

Я знервавалася:

— То хто, — кажу, — у канцы ведае, калі такая асоба як вы нічога не ведае!?

Тады ён пачаў гаварыць:

— Идите на такую и такую улицу, там сборный пункт, собирают людей в эшелон...

Пайшла я, найшла той зборны пункт, там людзей да халеры, усе адсюль, што хочуць вярнуцца дахаты. Зарэгістравалася я, і пытаю як доўга трэба будзе чакаць. Адказалі мне, што каля двух тыдняў. А я ў Германіі мела сяброўку, Насцю з-пад Астрыны за Гроднам; думаю — пайду на той час да яе. І з самой Астрыны была дзяўчына, Ніна... У Азёры заехала поездам, а ў Астрыну шафёр грузавіком падвёз. У Астрыне спытала я пра Ніну, а мне адказалі, што яна не вярнулася. Пераначавала я ў яе бацькоў, яны расказалі як дайсці да Насці і я пайшла. Бацька яе выворваў бульбу, а малодшая сястрычка збірала. У іх, не так як у нас, збіраюць толькі тую бульбу, што наверсе ляжыць, а апошнюю — пасля баранавання. Сказалі мне, што Насця дома, лён трэпле. Падыходжу пад дзверы, стукаю, а яна адзываецца:

— А і там не цесна, яшчэ дражніцца будзеш!

Яна думала, што гэта яе сястрычка. Я адчыняю дзверы, ёй аж трапачка выляцела з рук... Пабыла я там некалькі дзён, і прыехала ў Гродна разам з яе маці, якая везла на рынак лён. Ідзем мы па рынку, а цыганка да мяне прывязалася: Я табе паваражу! А я гавару весела ёй:

— Калі схлусіш, то паб'емся.

Ну і яна расклала карты і кажа:

— Э, *дэвушка*, ты смяешся, але тваё сэрца плача; ты не адсюль, а з-за граніцы. Дастанешся ты дадому, але задаволена ты не будзеш.

Так і было.

Каля Гродна была станцыя Ласосна, загналі нас туды, там былі пару дзён і на поезд, у Кракаў, бо там была рэпатрыяцыйная ўстанова. Але мы туды не паехалі: чаго? Ад Беластока самаходам недзе пад Бельск прыехала, а адтуль ужо пяшком прыйшла дахаты. Быў канец лістапада 1945 года.

**Запісаў Аляксандр Вярбіцкі**

# Чырак

Кожны мой прыезд цётка вітала здалёк. З рукамі ўроскідку набліжалася подбегам і паўтарала адно і тое ж: „Каб ты трэснуў, як я цябе не пазнала. Багаты будзеш!" Вызваліўшы з абдымкаў, церабіла маю бараду і папракала дзядзьку, які быў гладкі як калена, за яго няпоўную мужчынскасць. На гэты раз было інакш. Заўсёды вясёлая цётка глянула неяк дакорліва з-пад ілба і нешта буркнула — невядома ці „добры дзень", ці „пацалуй мяне ў...". Пайшла ў куратнік. А я ў хату да бабулі. Няцяжка было здагадацца, што дома нешта здарылася. Мабыць, мае прадчуванні наконт Коліка не былі лішнімі. Колік — гэта дваюрадны брат, які з восені жыў у маёй беластоцкай кватэры, здабываючы веды ў мясцовым геадэзічным тэхнікуме. І раптам, як камень у ваду — ні ў школе, ні ў мяне. Тыдзень будзе.

Бабуля прывычна сядзела за сталом ля акна і манатонна ўголас бубніла сваю адзіную святую кнігу, якую хутчэй ведала напамяць чым з літар.

— О, гэта ты прыехаў, — адарвалася ад кнігі ў скрып дзвярэй і пусціла зрок з-над акуляраў, якія трымаліся на кончыку носа. — Што цябе прыгнала?

— От, ехаў то і заехаў. Думаў пра Коліка нешта даведацца, а то ўжо тыдзень як не паяўляецца.

Бабуля цяжка ўздыхнула, зняла акуляры і працерла далонню вочы, ствараючы від, што, моў, пачырванелі яны ад стомы.

— А ў нас такое гора... Нічога ўжо з яго не будзе. Як свяча ад агню, так і ён з кожным днём марнее. Як прыехаў у мінулую пятніцу, як лёг, так і не ўстае. Ні да працы, ні да кампаніі. Са шпіхера, дзе ўлетку заўсёды любіў спаць, на двор носа не высоўвае. Нават есці не есць. Палімзае крыху і пакіне. Маці плача, бацька ад бяды сохне.

— Але хто? — пытаю. — Дзед ці хто?

— Які табе там дзед? Колік! Дурачком прыкідваецца, як бы не ведаў, — па тваёй бабулі прабег цень злосці напярэмешку з жалем. — Нябось, ведаеш. І то добра ведаеш. Сам жа сказаў, што прыехаў пра Коліка разазнаць.

— Ну так, то праўда. З тае прычыны, што тыдзень у школе не паяўляецца і ніякай звесткі ні ад яго, ні ад вас.

— Дзе яму цяпер да школы. А, бедненькі, так землябробам хацеў быць. Нічога не цешыць. Падумаць — толькі што васемнаццаць скончыў... Я ў яго гады даўно ўжо замужам была, з другім дзіцём хадзіла, а ён не паспеў расцвісці, а вянуць прыходзіцца... Калі ты ведаў, то не трэба было яму проста ў вочы гаварыць. Нам бы сказаў, а мы ведалі б як і што. А так можа не сама хвароба, як свядомасць яе невылечнасці дабівае. Папраўдзе кажучы, то навошта старацца, калі ў толк яно не пойдзе. Адно, што зрабіў, то ліпу ля свіронка пасадзіў. Кажа: „Вырасце, запахне, то і прыпомніце пра мяне". Так як бы чуў хуткі канец, — заплакала.

— Пачакайце, — гавару. — Што я такое ведаю, чаго не павінен гаварыць?

— А ты не прыкідвайся, што нічога не ведаў, — адазваўся мой бацька, які нячутна ўвайшоў у хату. — Нават лекары хвораму такога не кажуць. Малады, характар неўфармаваны і заламаўся.

Я стаяў, як віноўны на допыце перад прыгаворам, толькі віны не ведаў. Думкі лёталі па галаве, як жыд па пустой краме і нішто не пасавала да пачутага. Маўчанне спыніла прыйшоўшая на мой суд заплаканая цётка.

— Я цябе так шанавала, а ты такой бяды нам нарабіў, — пачала хліпаючы. — Калі ён табе мяшаў на кватэры, то трэба было нам сказаць, а не адразу дабіваць яго.

— Калі б мяшаў, — гавару, — то не прыехаў бы да вас занепакоены яго адсутнасцю. Пра ніякую ж так сур'ёзную хваробу я нічога не ведаў. Ад вас даведваюся.

— Ад нас? А мы ад яго. А яму то сказаў ты, што на рака хворы, — з жалем паглядзела на мяне цётка, быццам бы шукала ў мяне яшчэ абнадзейвання.

— Як рак? Адкуль мне ведаць, што ён на гэта хварэе. Што я — лекар? — узлаваўся я.

— У тым то і ўся справа, што не лекар, а дыягназ ставіш. Змарнаваў хлопца. А ён цябе па-брацку прасіў паглядзець, што ў яго на лапатцы выскачыла, бо балець пачало. А ты, без ніякага, адразу — рак.

Мне быццам бы камень з сэрца. Так, сапраўды, аднойчы Колік папрасіў мяне глянуць, бо нешта на спіне выскачыла. Я паглядзеў і сказаў, што слухай Колік, ты мабыць прастыў, бо велізарны чырак (скула — рэд.) на лапатцы брыняе. Заедзеш дамоў, то аблажы падарожнікам, каб хутчэй прарваўся. Лягчэй будзе.

— І што з лапаткай? — пытаю ледзь таймуючы смех. — Прарвалася?

— Так, — гаворыць цётка. — Проста пырснула, — глядзіць на мяне надзейна.

— Ну, значыць, усё. Звычайны чырак, — смяюся, трымаючыся за клямку.

— Бачыш, ты зноў пра сваё і яшчэ смяешся, — крыўдна дадала цётка. — А нам то не да смеху. Бяда во якая, што ў галаве не месціцца...

Гэта праўда, не месціцца.

**Міхаль Пашкоўскі**

## 10 гадоў БАС

Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў у Польшчы пляную **18 верасьня 1999 г.** правесьці мерапрыемства прысьвечанае 10 гадавіне рэгістрацыі арганізацыі й яе законнай дзейнасьці. Мерапрыемства адбудзецца ў Супрасьлі ў асяродку адпачынку „Пушча".

**Плян мерапрыемства**

12⁰⁰ — 14⁰⁰ прыезд, кватарунак і рэгістрацыя ўдзельнікаў;
14³⁰ — 17³⁰ афіцыйная частка, даклады;
19⁰⁰ — ... урачыстая вячэра;
9⁰⁰ — 10⁰⁰ сьнеданьне, разьвітаньне.

У артыстычнай частцы прадугледжваюцца канцэрты Сяржука Сокалава-Воюша й Віктара Шалкевіча.

**Кошты**

150 зл. ад асобы (начлег, абед, сьнеданьне);
110 зл. ад асобы (без начлегу, абед, сьнеданьне);
70 зл. ад асобы (без начлегу, без абеду, бяз сьнеданьня).

Свае заявы на ўдзел у мерапрыемстве можна падаваць да **15 жніўня 1999 г.**, уплачваючы адпаведны ўзнос на рахунак БАС — **Białoruskie Zrzeszenie Studentów, PBK S.A. I O/Białystok, Nr 11101154-2857-2700-1-14** — з прыпіскай „10-lecie". Пасьведчаньне ўплаты захаваць.

# Чытанне — найлепшая навука

6 чэрвеня споўнілася 200 гадоў з дня нараджэння вялікага рускага паэта Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна — генія сусветнай літаратуры. Хто не захапляўся Пушкіным на школьных уроках, хто не вывучаў яго вершаў? У памяці многіх чытачоў асталіся цудоўныя пушкінскія творы, як хоць бы „Зімовы вечар", „Восень", „Помню цудоўнае імгненне", „У глыбіні сібірскіх руд" ды іншыя.

Паэзія Пушкіна была магутным настаўнікам Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча — класікаў беларускай літаратуры. Якуб Колас пісаў: „Гэта былі вяршы, дзівосныя вершы! Яны кіпелі, смяяліся, разлягаліся выбухамі грому, кіпелі напружаннем страсці і клікалі за сабой, захапляючы шырынёй і празрыстасцю думкі"... Для таго, каб пісаць, Пушкін сам вельмі многа чытаў. У сяле Міхайлаўску за два гады ён прачытаў 12 вазкоў кніжак. Яго міхайлаўскі кучар Пётр Парфёнаў пацвердзіў: для вясковай бібліятэкі паэта спатрэбілася 24 скрынкі, іх палажылі на 12 падводах.

Блізкі друг паэта Павел Нашчокін успамінае, што Пушкін пастаянна насіў у кішэнях адну, або дзве кнігі і ў свабодны час браўся за чытанне. Будучы ліцэістам напісаў ён верш „Гарадок", у якім чытаем пра любімых аўтараў маладога паэта. Тут Гамер і Вяргілій, Мальер і Расін, Вальтэр і Русо, а побач з імі рускія: Фанвізін, Дзяржавін, Крылоў, Карамзін, Бацюшкаў. Вельмі многа Пушкін напісаў у сяле Балдзіне. Восеньскія месяцы 1830-1833 гадоў былі надзвычай пладатворнымі. Кожны дзень у Балдзіне з'яўляліся творы, якія праславілі Пушкіна. Тут былі напісаны „Аповесці Белкіна", закончаны старонкі „Яўгенія Анегіна", „Медны коннік", „Пікавая дама", „Гісторыя Пугачова", чароўныя казкі. Пушкін не толькі сачыняў, але адначасова чытаў. Набытыя веды ставаліся крыніцай паэтычных вобразаў будучых твораў, былі карыснай стравай для творчых задумаў паэта.

Літаратурныя і архіўныя матэрыялы аб мужыцкім паўстанні 1773-1775 гадоў паслужылі ўзнікненню „Гісторыі Пугачова" і аповесці „Капітанская дачка". Каб напісаць трагедыю „Барыс Гадуноў" Пушкін быў вымушаны дакладна пазнаёміцца з „Гісторыяй Дзяржавы Расійскай" Карамзіна і прачытаць драмы Шэкспіра. Карамзін дапамог паэту ўглыбіцца ў часы цара Барыса і Лжэдзімітрыя, а творы Шэкспіра знаёмілі з прынцыпамі пабудовы трагедыі. Пушкін ніколі не займаўся простым пераказам прачытанага. Расказ другога аўтара выклікаў у яго ўласныя думкі і вобразы самабытныя, непадобныя на іншыя.

Маленькая трагедыя „Пір у час чумы" — гэта пераклад паэмы „Чумны горад" англічаніна Вільсана. У творы гаворыцца аб вялікай чуме 1665 года, якая забрала ў магілу 68 тысяч людзей. З 13 з'яваў англійскага паэта Пушкін узяў толькі адну, скараціў лік асоб, адкінуў непатрэбныя яму рэплікі. Зусім па-новаму напісаў песню Мэры і мужны гімн Старасты піра. У гэтай маленькай трагедыі праславіў паэт веліч і сілу чалавечага духа.

Дух Пушкіна стаў натхненнем для многіх пісьменнікаў. Пад уплывам пушкінскай прозы Леў Талстой стаў пісаць „Анну Карэніну". Пушкін цешыўся кожнай новай кнігай і не шкадаваў на іх грошай. Ён успеў за кароткае жыццё здабыць багатую бібліятэку. Кожная кніжка была ўважліва прагледзеная паэтам. На старонках кніг ён алоўкам рабіў свае заўвагі.

„Прощайте, друзья!" — сказаў ён кнігам, калі яго смяротна параненага палажылі на канапе сярод бібліятэчных паліц.

„Чтение — вот лучшее учение" — напісаў Пушкін яшчэ ў маладосці. З гэтым перакананнем пражыў паэт усё жыццё.

**Мікалай Варанецкі**

# Найлепшыя пажарнікі...

Нараўчанская гмінная добраахвотная пажарная арганізацыя налічвае 135 членаў. Сёлета лік добраахвотнікаў у Нараўцы, Альхоўцы і ў Семяноўцы павялічыўся на 21. З нагоды сёлетняга святкавання Дня пажарніка ў Нараўцы былі ўзнагароджаны: залатым медалём „За заслугі для пажарнай справы" — Яраслаў Бяляўскі; сярэбранымі медалямі — Юры Аніськевіч, Рыгор Гарустовіч, Андрэй Яворскі, Юзаф Падлашчык і Тамаш Бяглюк, а бронзавымі — Яўген Грыц, Багуслаў Давідзюк, Яўген Лісоўскі, Уладзімір Зданоўскі і Ян Пракапчук.

Адзнакі „Узорны пажарнік" атрымалі Сільвестар Стульгіс, Войцех Стульгіс, Кшыштаф Стульгіс, Андрэй Стульгіс, Яўген Шыманюк, Васіль Кічкайла, Андрэй Лясьнеўскі, Рафал Алясінскі, Войцех Пацэвіч, Лукаш Мілько, Марцін Панькоўскі, Мацей Бароўскі і Мікалай Кіслы.

# ... і пажарныя хронікі

Галоўнае праўленне Саюза добраахвотных пажарных каманд арганізавала конкурс на найлепшыя хронікі, мемуары, успаміны і распрацоўкі „З гісторыі ОСП".

Вельмі цікава і акуратна ўжо некалькі дзесяткаў гадоў вядуцца летапісы пажарных каманд у Міхалове і Васількове, а таксама ў Боцьках і Чыжах. Яны з'яўляюцца скарбніцай ведаў для гісторыкаў рэгіёна. Найлепшыя летапісцы — Яўген Тымашэвіч і Генавефа Луц'ян з Боцькаў.

Варта адзначыць, што ОСП у Міхалове існуе 98 гадоў, у Васількове — 102, у Боцьках — 89 і ў Чыжах — звыш 50 гадоў.

**(гай)**

# Войт на ўзводзе

Аб схільнасці войта Арлянскай гміны Міхала Іванчука да алкаголю вядома ўжо дзевяць гадоў. 1 чэрвеня г.г. чарговы ўжо раз знаходзіўся ён на рабоце ў нецвярозым стане.

— Каля 12 гадзіны дня пайшоў я да войта аформіць свае справы, — расказвае Юзаф Бжана, мясцовы ветэрынар і заадно павятовы радны. — Бачу, а ён не кантактуе, не разумее, што я гавару, такі п'яны. Тады я заявіў, што выклічу паліцыю, а ён сказаў мне „калі ласка". Калі я стаў набіраць нумар паліцыі, войт выйшаў з будынка і сеў у машыну ды намерваўся ад'ехаць. Я спыніў яго, завёў назад у будынак, а сакратар гміны зачыніў яго ў сваім пакоі на ключ. Затым другі раз я патэлефанаваў дзяжурнаму паліцыі ў Бельску, але калі той не хацеў справай заняцца, паразмаўляў я па тэлефоне з камендантам. Калі праз гадзіну паліцыя не прыехала, я паведаміў павятовага старасту і толькі па яго загаду прыехала паліцэйская машына. У прысутнасці сакратара гміны пачаліся допыты. Войт тлумачыў, што выпіў толькі дзве бутэлькі піва, аднак апаратура паказала, што ў выдыхаемым паветры знаходзіцца 2,56, а праз некалькі мінут пазней 2,57 праміля алкаголю.

У гэты дзень войт парушыў працоўны і дарожны кодэксы.

* * *

Нецвярозы войт не толькі кампраметуе сябе і гміну, але стварае небяспеку ў дарожным руху. Не раз людзі бачаць п'янага войта за рулём малога „Фіата". Пад канец красавіка наехаў ён на ровар аднаго з солтысаў, які стаяў на абочыне вуліцы. Цяпер гэты солтыс ездзіць на новым ровары. А войт, як відаць, п'е далей. Калі яго выбіралі на войтаўскі пост трэці ўжо раз, на сесіі публічна заявіў, што нецвярозыя выхадкі — гэта гісторыя і што будзе намагацца, каб такія непрыстойныя сітуацыі не паўтараліся. Але слова не стрымаў. У Орлі далей правіць войт на ўзводзе або, як у нас кажуць, пад газам.

**Міхал Мінцэвіч**

# Наша пошта

**Дарагая „Ніва"!**

Пераглядаў я Твае апошнія нумары за месяц май, і вось у н-р 21 натрапіў на тэкст У. Сідарука „Пустаслоўная бязглуздзіца". У мяне іншае меркаванне наконт ніўскага карэспандэнта Мікалая Панфілюка. Не ведаю як там было ў прошлым, таму пра гэта і не буду выказвацца. На жаль, мы працуем і жывем у розных гмінах (я ў Кляшчэлеўскай), таму і сустракаемся рэдка. Аднак кожная наша сустрэча вельмі цікавая. Мала цяпер у нас на вёсках людзей, з якімі можна пагутарыць на розныя тэмы: ад палітычных, праз культурныя, да біблейскіх. Мікалай Панфілюк ва ўсім гэтым разбіраецца на зусім не нізкім узроўні. Гэта мяне здзіўляе — як жа не шанаваць такіх людзей! Апрача таго самому прыйшлося пераканацца, што і ў адносінах ён чалавек добры, ўчцівы і з гонарам. Каб больш было такіх жыхароў Беласточыны!..

**Сцяпан Мруг**

PS. Карыстаючы нагодай хачу падзякаваць рэдакцыі „Нівы" за тое, што тыднёвік ад часу натаўскай агрэсіі на Сербію стаў такім цікавым і праўдзівым (куды больш цікавей за „Выбарчую"!) Дзякую і ўсім аўтарам, якія адкрываюць нам вочы пра гэту жудасную вайну.

# Вер — не вер

Астроне! Мне ў апошнюю ноч сніліся пажары. Менавіта не пажар, а пажары. То бачу, што ў адным месцы гарэлі, бадай, тры блёкі, пасля — у другім, там было нават больш дамоў. Але мушу сказаць, што я каля гэтых пажараў прайшла абыякава, быццам яны мяне не датычыліся. Што абазначае гэты сон?

**Лідка**

Вой, даражэнькі Астронку! Кажу табе, такі сон прысніўся, такі сон... Салодкі, быццам мёд. Справа ў тым, што ёсць у мяне адзін сябра. Ён такі прыгожы, што лётаюць за ім усе сяброўкі. Я — дзяўчына скромная, нават і не марылася мне, што ён зверне на мяне ўвагу! А тут, разумееш, во што прыснілася. Быццам мы з ім ляжым у пасцелі і ён мяне цалуе, абсыпае пяшчотамі, а мне так прыемна, так прыемна. Прачнулася я, а на душы так цёпла і радасна. Як ты думаеш, Астроне, ці можа гэты сон прадвяшчаць, што хлопец зверне на мяне ўвагу? Я думаю, што можна на гэта разлічваць. Падкрэсліваю, што я нават і не спадзявалася, што ён можа мяне пакахаць, ды і не думала пра гэта. А вось, бач, прыснілася.

**Лена**

Лідка! Твой сон не такі страшны, як гэта магло б здавацца на першы погляд. Пажар, хоць з'ява страшная, у сне можа прадвяшчаць хваробу ад прастуды, з высокай тэмпературай, гарачкай. Можа прастудзішся ты або нехта з тваёй сям'і. Думаю, што неяк перажывяце.

А ты, Леначка, дарма радуешся. Я не сумняваюся, што і ў часе, калі табе тое снілася, і пасля, калі ты ўстала, было табе соладка на сэрцы. Але ж, даражэнькая, ты блытаеш сон з рэчаіснасцю. Прыснілася — і ты думаеш, што ўжо гэты хлопец твой. А ты пачакай, паслухай, што табе стары дзед падкажа. Бо можа цябе падсцерагаюць нейкія фальшывыя справы і сябры. А магчыма, што нават і гэты хлопец пачне заляцацца да цябе, але ты яму не вер: усё гэта будзе ашуканства. Пацалункі ў сне — фальш.

**Астрон**




**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com
**Internet:** *(wydanie elektroniczne w przygotowaniu)*

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk", ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH" S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Фота Міры ЛУКШЫ

Фрашкі пра нашых

## Вядунні

Надумалі цёткі выклікаць дождж у Меляшках.
Гэта не плёткі, кажу вам, зусім не мана.
Веду таемную кожная з іх знае не з кніжкі,
Традыцыю помняць, і спевы. Гэта ведаць не лішне.
Кажа адна: Фэка будзе, калі нам агароды пагінуць
Ад сушы. Маку трэ будзе нам у студню раз кінуць.
Сыпалі макам кабеты. А дажджу — кот наплакаў.
— Значыць, мілыя сёстры, малавата мы сыпнулі маку!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. прасоленае падскурнае свіное сала, 8. невялікае судна, 9. бацька Ісаака, 10. прадукт творчай працы, 11. слонімская рака, 13. аўтар эсэ, 15. чалавек схільны да эратаманіі, 16. прыгажосць, 20. бярэ хабар, 22. ящчэ не юнак, 23. пасудзіна з дужкай для вадкасцей, 27. альпініст, 29. вялікае дрэва з шырокім лапчатым лісцем, 30. сухая рот дзярэ, 31. афармленне твару артыста, 32. недахоп, 33. невялікая дахавая дошчачка, 34. аправа для ўстаўкі карцін.

**Вертыкальна:** 1. выробляе гліняную пасуду, 2. упадак у развіцці, рух назад, 4. жанчына, якая дапамагае пры родах, 5. жонкі і наложніцы мусульманіна, 6. узнагарода за выдатныя заслугі, 7. устаноўленая норма аплаты, 12. складаны арнамент у духу арабскага стылю, 14. выхваляка, 16. пакрывала на ложак, 17. горы ў Паўднёвай Амерыцы, 18. дадатны электрод, 19. праём у сцяне для святла і паветра, 21. шкляная пасудзіна з вадою для трымання рыб, 24. адростак на заднім краі паднябення ў поласці рота, 25. беспілотны лятальны апарат з рэактыўным рухавіком, 26. цвёрды каштоўны камень, 27. мае вялікія вочы, 28. памяшканне для стаянкі і рамонту верталётаў. **(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 19 нумара**

**Гарызантальна:** Ямал, Сеара, Іматра, уцёс, Бірск, іголка, Асклепій, Фінке, цяганіна, Картасар, ртуць, Капашвар, быліна, тыяра, піва, зараза, ісцец, Янча.

**Вертыкальна:** Феліні, прысак, мяцеліца, Лісіп, габой, Брака, Ксенафон, Гіпакрат, факт, нара, кіпу, юань, Ярашэвіч, Трыест, Цэрбер, Рыман, Кітай, папая.

Рашэнне: **Згараючы сам, свяці іншым.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Міхалу Байко** з Беластока і **Юрасю Сцяпанаву** з Віцебска.

## Пра ахоўнікаў

Наша хата скраю нашай пусцеючай вёскі, мы тут сабе седзімо і бульбай ласуемся, а часам, калі задумаем памідоры пасадзіць, то і на нейкае газецішча вокам кінем. А дзесьці далёка, у касмічнай прасторы, касманаўты з астранаўтамі праз азонавую дзірку вокам на нашу хатку лыпаюць, сусветная павуціна пульсуе мегабайтамі ўсемагчымай інфармацыі, нашы бедненькія ўсенародныя абранцы да сёмага поту люструюцца ўзаемна прынагодна намагаючыся як найбольш падцягнуць нашы ўсемагчымыя аплаты да прынамсі еўрапейскага ўзроўню. Апошняе называецца рэформамі, з каторых найбольшыя страсці выклікала рэформа аховы здароўя.

Нашы любіменькія парламентарыі, міністры і штатныя сакратары займаюцца такою рэформай, якая пад сілу іх разумовай магутнасці, значыць выдумоўваннем перапісвання паперак на новыя бланкі і перакладання іх у новыя папкі. Мо шаноўныя чытачы паверацьабяцанням у тое, што, вытрымаўшы гэтыя „часовыя" пакуты, апынемся ў тым шчаслівым раю, дзе ўжо перастануць ашчасліўляць нас рэфарматарскім балаганам. На вялікі жаль адным, а на вялікую радасць другім, прадбачваю рэфармаванне аж да тае пары, пакуль яшчэ хварэць будзем. Бо мы тут сабе бульбу з квасам і пілюлі, а амерыканскія вучоныя кока-колу...

Выдумалі яны электрычны ліфчык, значыць такую кароценькую майку з дэтэктарамі, якая, калі тыя дэтэктары выявяць нарушэнне сардэчнага рытму, стварае шокавыя электрычныя разрады, якія вяртаюць сардэчны рытм у правільнае русла. Ёсць і другія выдумкі. Напрыклад эмацыянальны манітор, які носіцца там, дзе і наручны гадзіннік, і які кантралюе нашы пульс, працу мышцаў і выдзяленне поту. Праўда, у рамушках, на якіх носіцца такія прыборы, выяўлены рэчывы, якія цераз пацеючую скуру пранікаюць у наш арганізм і могуць выклікаць ракавыя захворванні, але каб гэта прадухіліць трэба папросту есці соевыя прадукты і піць зялёны чай, багатыя гаючымі антымеланінавымі лікцінам і поліфеноламі. Распрацоўваецца таксама і цялесны сканер, які мае сачыць за здароўем нашай скуры і выкрываць кожную найменшую нават падазроную радзімку.

Некаторыя хворыя дыябетам не адчуваюць болю на канцах канечнасцей; такі можа цяжка параніцца і, нічога дрэннага не спадзеючыся, абяскровіцца. На такія выпадкі распрацоўваюцца электронныя шкарпэткі, якія выручаць нашы непаўнацэнныя нейроны і патрывожаць нас пра небяспечную траўму. А ўжо на траўмы распрацоўваюцца разумныя бінты, якія не толькі ізалююць раны, але яшчэ на дадатак дыягнастуюць наяўнасць інфекцыі, а нават вызначаюць неабходны антыбіётык!

Хай шаноўны чытач не падумае, што гэтыя выдумкі адно амерыканскім кокакольным панам. Бізнес не прызнае межаў, асабліва ж сяброўскіх краін. Таму ад нашых любімейшых усенародных абраннікаў-ахоўнікаў трэба спадзявацца чарговага этапу іх заклапочанасці нашым здароўем і ўвядзення абавязковага, накшталт страхоўкі, апранання амерыканскіх ліфчыкаў, шкарпэтак, сканераў, джынсаў і ўсялякіх другіх выдумак, якія, інтэлігентныя, будуць падключаны пры дапамозе сотавай сувязі да сусветнай павуціны скорай дапамогі.

Дзеля гэтага будзем аснашчаны абавязковымі сонечнымі батарэямі, якія, як у сённяшніх спадарожніках, нагадваць будуць крылы; будзем выглядаць як анёлы. А і сусветная павуціна будзе таксама нанізана на крылатыя спадарожнікі з сонечнымі батарэямі, якія будуць над намі вісець быццам анёлы-ахоўнікі...

І тады захварэць нам будзе цяжка, ой цяжка! Будзем жыць гадоў сто, дзвесце, а мо нават і пад дзевяцьсот падцягнем — як найсамперршы наш прашчур з раю Адам. Вось, дапусцім, бегаем мы, забінтаваныя, па райскіх джунглях у крылатым ліфчыку і шкарпэтках, з бутэлькай кока-колы ў руках. І бачым нейкую Еву. Нам недзе за шэсцьсот, вылыселі. Тады хуценька прымаем гарманальныя пілюлі, ад якіх адразу вырастае нам шавялюра салоннага льва. Але тыя пілюлі, як гэта з пілюлямі бывае, могуць выклікаць спад патэнцыі. Тады хуценька другую пілюлю — віягру... І зразу нашы інтэлігентныя бінты выкрыюць празмернае павышэнне эмоцыяў ды сардэчнай актыўнасці і пашлюць сігнал трывогі ў скорую дапамогу! І верталёт над нашымі джунглямі тут жа паявіцца, і санітары-ахоўнікі падхопяць нас, старога дурня, і проста ў... Харошчу!

**Адам МАНЬЯК**

## Кароткі курс параноі

Глядзеў далёка. Ішоў упоравень з Богам. Ды на дарозе чэрці. Здаўся.

*

Не цярпеў спеху. Перш чым адправіцца на той свет, загадзя правёў разведку.

*

Ваенных задаткаў не меў. Стаў міністрам абароны.

*

Вырашыў задобрыць праціўніка. Паслаў яму меч.

*

Ішоў на галгофу. Узышоў на п'едэстал.

*

Па настаянні ўласнага одуму напісаў на сябе данос.

*

Уважлівы да ўсіх, цаніў прынцып: „Я кінуў — мне кінулі".

*

За памяркоўную цану згадзіўся ачысціць пекла ад шкоднай энергіі.

*

Пісаў крывёю і слязьмі — атрымалася шэрая дылогія.

*

Шмат ідэй раілася ў ягонай галаве. Выраілася галавакружэнне.

*

Раней змагаўся за ідэйнасць, цяпер за праўду. Чаму тады ваюе ён супраць Лукашэнкі?

**Сідар МАКАЦЁР**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Якая найчасцей прычына разводу?
— Калі жонка раскладае ногі, а муж рукі.

***

— Што такое шчасце мужчыны?
— „Я хачу".
— А шчасце жанчыны?
— „Ён хоча".

***

— Якая розніца між жанатым і халасцяком?
— Калі халасцяк закахаецца — жэніцца, а калі жанаты закахаецца — разводзіцца.